Адна зямля

Мядзел
Астравец
Смаргонь
Ашмяны
Вілейка
Маладзечна
Валожын
Мінск


# Рэгіянальная газета. Rh.by

ТэлетыДзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

21 лістапада 2014 года №47 (1021)



**Невідушчы стварыў унікальны IT-дадатак**

Як 28-гадовы выкладчык спрычыніўся да стварэння дадатку на мабільныя тэлефоны, чаму пераехаў з Масквы ў Маладзечна і не толькі

старонка 20

**Ці нашкодзяць экалогіі свінакомплексы**

с. 3

**Разгадай крыжаванку і атрымай білеты на хакей**

с. 22

**Колькі можна зэканоміць на скідках?**

с. 21


# 18-гадовая рабіла спайс і хавала на магілах

## Пра яе лёс расказвае стрыечная сястра

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. Калі міліцыя затрымала, у яе пачалася ломка, кідала то ў жар, то ў холад. Разам з ёй затрымалі двух хлопцаў.**

Пра схему продажу наркотыку распавёў начальнік аддзялення крымінальнай міліцыі Маладзечанскага райаддзела міліцыі **Юры Кабакоў**.

Дзяўчына закупляла наркатычныя рэагенты ў Мінску, а ў Маладзечне на наймманай кватэры рабіла спайс.

Разам са сваім 21-гадовым маладым чалавекам яна стварыла ў сацыяльнай сетцы суполку, праз якую прадавала наркотык. Пакупнік пісаў заказ, пералічваў грошы праз электронны кашалёк, яму паведамлялі, дзе будзе схаваная закладка з наркотыкам.

22-гадовы таксіст падвозіў на месца. Дзяўчына рабіла закладку.

Яна рабіла закладкі на могілках, што месцяцца каля мікрараёна Парашкі, у гаражным кааператыве.

### Толькі дубасіла з раніцы

У пятніцу, 14 лістапада, дзяўчыну і яе маладога чалавека арыштавалі. Таксіста адпусцілі пад падпіску, а яго машыну забралі. Верагодна, яна будзе канфіскаваная ў даход дзяржавы.

Дзяўчына родам з Асцюковічаў Вілейскага раёна. Паступіла вучыцца ў політэхнічны каледж у Маладзечне. Сама 2-3 гады набывала спайс па такой жа схеме закладак у Мінску, стаяла на ўліку. Жыла ў Маладзечне на наймманай кватэры. Яе адлічылі, нідзе не працавала. Пра гэта распавёў начальнік аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі **Дзмітры Сухоцкі**:

– Калі затрымалі, у яе была ломка ў нашым кабінеце. Казала: “Я толькі з раніцы дубасіла”. Кідала то ў жар, то ў холад. Яе маладым чалавек не адмаўляе, што таксама ўжывае.

Ён мае дзіця ад іншай жанчыны.

Кадр з відэа, на якім дзяўчына падчас затрымання паказвае, дзе хавала спайс. Міліцыянер трымае яе на ланцужку.

Фота uvd-mo.gov.by.

[redacted]

Эта страница была создана для попытки забыть прошлое,но его пришлось вспомнить,забрать и уже не отпускать)

8 студз а 21:05 | Камэнтаваць   Мне падабаецца 1

Скрыншот vk.com.

Адзін з запісаў на яе старонцы ў сацыяльнай сетцы.

### Адмаўляцца ад сястры не збіраемся!

Стрыечная сястра арыштаванай **Валерыя** пагадзілася распавесці пра сваю сваячку:

– Яе маці была маёй хроснай, вельмі добрая. Але мела такую ж праблему, як бацька, яна піла. Калі Алесі было дзесяць год, памерла ад запалення лёгкіх. Калі Алесі было 13, памёр бацька.

Яе старэйшай сястры 27, але яна таксама пайшла ў 15 год па нахіленай. Ёсць яшчэ брат, яму 25, працуе дальнабойшчыкам, вельмі добры.

Яе брат у той час быў у арміі. Мой бацька, яе дзядзька, таксама п'е. Была толькі бабуля, але яна не захацела ў старасці браць на сябе адказнасць.

Наколькі я ведаю, яна звязалася з дрэннай кампаніяй, я не разумею, чаму гэта адбылося. Яна вельмі разумная дзяўчына, школу скончыла харашысткай.

Пасля смерці бацькоў жыла ў прыёмнай сям'і. Да нас на выхадныя амаль не адпускалі. Летась яна прыязджала да мяне на чатыры дні, мы хадзілі ў лес у чарніцы. Падпрацоўвалі, здаючы іх. Я не бачыла прыкмет наркаманіі. Яна нават алкаголь не ўжывала.

Часта была з намі ў бабулі. Вучылася ў Ільянскай школе, а дом бабулі быў каля яе. Была мілай фантазёркай, вельмі любіла спяваць. З маёй малодшай сястрой яны стварылі свой міні-гурт, пісалі песенькі і ладзілі канцэрты.

У маёй сям'і сітуацыя крыху іншая. Мая мама ніколі не піла, развялася з татам. А з Алесяй нават школьныя псіхолагі, наколькі памятаю, не гаварылі. У вёсцы толькі б у душу залезці, пaабмяркоўваць. Я памятаю, як прыйшла ў школу пасля пахавання яе бацькі, ніхто не спачуваў. Усім толькі цікава, як і з якой прычыны пайшоў з жыцця.

Яна засталася практычна адна. Што мы, брат і сёстры, маглі? Мы былі такімі ж дзецьмі. Не было дарослых, чыя дапамога магла яе выратаваць.

Яна кахала свайго хлопца. Не хацела паўтараць памылку бацькоў. Хацела жыць у дастатку і ні ад каго не залежаць.

Многія цяпер абмяркоўваюць мяне, маю сястру, грабуць пад адзін грэбень. Ніхто не мае права асуджаць, не абуўшы чужыя боты і не прайшоўшы чужым шляхам. Я заступаюся не таму, што лічу, нібы яна правільна робіць. Сям'ю не выбіраюць, і якія б праблемы не былі, у нас адна кроў. Адмаўляцца ад сястры мы не збіраемся!

Цяпер у яе два варыянты. Ці, адбыўшы пакаранне, пачаць усё з чыстага ліста, ці турма яе зломіць.

Я спадзяюся на першае. Думаю, яна справіцца.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

АДУКАЦЫЯ

# Плаціць за каледж меней, чым за садок

**МАЛАДЗЕЧНА. У Кодэкс аб адукацыі плануецца ўнесці змяненні, якія прапануюць замацаваць заканадаўча: зрабіць платнымі яслі для дзетак да трох гадоў і групы для тых дзяцей, якім ужо споўнілася шэсць.**



Фота ladyrf.ru.

Праграмы навучання ў спецыялізаваных садках распрацаваныя з улікам тых ці іншых праблем і накіраваныя на іх ухіленне.

Чарговыя змены, якія могуць увайсці ў дапоўнены Кодэкс аб адукацыі, абмеркавалі падчас "круглага стала", які прайшоў на базе мінскай гімназіі №22 у лістападзе.

У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі галіновага міністэрства, Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі па адукацыі, навукі, культуры і сацыяльным развіцці, камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама і педагогі.

Па падліках сума, якую будуць плаціць бацькі, будзе каля 1,5 мільёна рублёў у месяц. Выключэнне складуць дзеці, якім рэкамендавана падоўжыць тэрмін атрымання дашкольнай адукацыі на 1 год па медыцынскіх паказаннях.

Наша чытачка **Таццяна Апяцёнак** прапанавала простую арыфметыку:

– У маёй знаёмай дзіця паступіла ў гандлёва-эканамічны каледж на платнай аснове. Бацькі за навучанне дзіцяці будуць плаціць 11 мільёнаў у год. Другому дзіцяці знаёмай спаўняецца шэсць гадоў у верасні. Яго ў школу не бяруць. Па новай прапанове міністэрства, з шасці гадоў за сад трэба заплаціць 1,5 мільёна. Адпаведна з шасці гадоў (верасень) да сямі гадоў (верасень) праходзіць 12 месяцаў. Палічым: 12 месяцаў памнажаем на 1,5 мільёна = 18 мільёнаў. Як гаворыцца, адчуйце розніцу. 18 мільёнаў у садку і 11 за тое, каб атрымаць спецыяльнасць.

Маладзечанка **Кацярына Караткевіч** гаворыць, што пакуль навіну толькі чытала ў інтэрнэце. У садку пра новаўвядзенні нічога не гаварылі.

– Мы і так ужо вельмі шмат плацім, далей што будзе? А ў мяне двое дзяцей ходзяць у сад. Плюс апякунскія ўнёскі на дваіх. Увесь заробак будзе ісці на садок. Мне як педагогу працей дома з імі сядзець і выхоўваць самой, і займацца з імі.

У Маладзечанскім аддзеле адукацыі каментаваць сітуацыю адмовіліся. Галоўны спецыяліст па пытаннях дашкольнай адукацыі Маладзечанскага аддзела адукацыі **Наталля Сідарэвіч** адказала, што калі будзе прапанова зацверджаная заканадаўча, тады і можна будзе пра гэта гаварыць.

## Спецыялізаваныя дзіцячыя садкі рэгіёна

Спецыялізаваныя дзіцячыя садкі прызначаны для дзяцей, якія маюць пэўныя праблемы са здароўем. Праграма такога дзіцячага садка распрацаваная з улікам тых ці іншых праблем і накіраваная на іх ухіленне.

**СМАРГОНЬ.** Усе садкі ў Смаргоні маюць спецыяліста-дэфектолага, расказала "Рэгіянальнай газеце" намеснік начальніка Смаргонскага аддзела адукацыі **Іна Савіцкая.** Таму бацькам, чыя дзеткі патрабуюць карэкцыйнай працы, не трэба хвалявацца пра тое, што дзеці застануцца без увагі.

Акрамя таго, у садках №15 і №8 ёсць інтэграваныя групы. У Смаргоні працуе санаторны сад №9. У ім выхоўваюцца дзеці, якія часта хварэюць, маюць захворванні сэрца.

У садку №14 працуе спецыялізаваная санаторная група. У вучэбна-педагагічных комплексах ў вёсках Смаргонскага раёна таксама працуюць дэфектолагі. А ў вёсцы Сасноўка працуе сямейны дзіцячы садок.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Тут працуе спецыялізаваны дзіцячы садок №2 для дзяцей з цяжкімі парушэннямі маўлення. У гэтай установе працуюць шэсць груп, у якіх могуць займацца дзеткі ад 3 да 7 гадоў.

Акрамя таго, на базе іншых дзіцячых садкоў працуюць 12 карэкцыйных груп. Сем з іх – для дзетак з парушэннем зроку, адна для дзетак з затрымкай псіхічнага развіцця, чатыры – для дзяцей з цяжкімі парушэннямі маўлення.

Афармляецца дзіця ў такія групы па заключэнні спецыялістаў цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі. Пра гэта расказала галоўны спецыяліст па пытаннях дашкольнай адукацыі Маладзечанскага аддзела адукацыі **Наталля Сідарэвіч.**

**АШМЯНЫ.** У Ашмянах спецыялізаваных дзіцячых садкоў няма, але ў штаргу агульнаадукацыйных садкоў працуюць інтэграваныя групы. Група, у якой займаюцца дзеці з парушэннямі апорна-рухальнага апарату, працуе на базе дашкольнага цэнтра развіцця дзіцяці ў Ашмянах. Групы для дзетак з цяжкасцямі ў навучанні працуюць на базе ясляў-садкоў №3 і №6. Групы для дзяцей з інтэлектуальнай недастатковасцю працуюць на базе ясляў-садка №6 і Граўжышкінскага дзіцячага садка.

Спецыялізаваныя групы для дзяцей з цяжкімі парушэннямі маўлення працуюць на базе ясляў-садкоў №№1, 3 і 7 і дашкольнага цэнтра развіцця дзіцяці. Для дзетак, якія доўга хварэюць, працуе санаторная група ў яслях-садку №6. Пра гэта расказала галоўны спецыяліст Ашмянскага аддзела адукацыі **Жанна Загорская.**

**АСТРАВЕЦ.** У астравецкіх садках працуюць інтэграваныя групы. Спецыялізаваных груп і асобных устаноў для дзетак з парушэннямі ў горадзе і раёне няма. У некаторых дашкольных установах працуюць санаторныя групы.

Пра гэта расказала метадыст па навучальна-метадычным забеспячэнні дзейнасці дашкольных устаноў Астравецкага аддзела адукацыі **Ірына Ган.**

**МЯДЗЕЛ.** У Мядзельскім раёне на базе пяці ўстаноў працуюць сем інтэграваных груп для дзяцей з псіхафізічнымі адхіленнямі, паведаміла намесніца начальніка Мядзельскага аддзела адукацыі **Святлана Кондра.**

Інтэграваныя групы працуюць на базе Мядзельскага навучальна-педагагічнага комплексу дзіцячы сад-школа, у яслях-садку №3, у Крывіцкім навучальна-педагагічным комплексе, Нарачанскіх яслях-садку і дашкольным цэнтры развіцця дзіцяці курортнага пасёлка Нарач. У гэтых групах займаецца 21 дзіця.

**ВАЛОЖЫН.** У Валожыне на базе дзіцячага садка №6 працуе спецыялізаваная група для дзяцей з парушэннямі маўлення. А таксама ў цэнтры карэкцыйна-развіццёвага навучання працуе група і клас для дзяцей са шматлікімі цяжкімі парушэннямі.

Пра гэта расказала сацыяльны педагог цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання **Таццяна Новік.**

**ВІЛЕЙКА.** У Вілейцы працуюць дзве групы для дзяцей з цяжкімі парушэннямі маўлення. Працуюць гэтыя групы на базе садка №11. Акрамя таго, у горадзе і раёне працуюць дзевяць часовых адаптацыйных пляцовак.

Сэнс працы пляцовак у тым, што бацькі прыводзяць сваіх дзетак у садок, каб яны пазнаёміліся з выхавальнікамі і выхаванцамі груп ранняга ўзросту, пагутарылі, пагулялі.

– Падобныя наведванні дапамагаюць дзецям прызвычаіцца да распараду дня ўстановы, вучаць камфортна адчуваць сябе ў дзіцячым калектыве без мамы і таты, спрыяюць развіццю разнастайных навыкаў, расказала метадыст Вілейскага аддзела адукацыі **Іна Бабурына.**

Акрамя пляцовак, у трох установах працуюць мацярынскія школы, у якіх цэлы дзень знаходзяцца дзеткі, якім яшчэ не споўнілася трох гадоў. Такія школкі працуюць на базе ясляў-сада №5, дашкольнага цэнтра развіцця дзіцяці і Куранецкага дзіцячага садка.

**Наталля ТУР.**

ЛІЧБА НУМАРА

**30** кілаграмаў свініны ў год прыходзіцца на аднаго жыхара Беларусі

У Даніі - 77
У Іспаніі - 64
У Германіі - 57

Паводле навукова-вытворчай фірмы "Экалогія"

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

ТУРЫЗМ

## Экскурсія па Першай сусветнай пройдзе па трох раёнах

**МЯДЗЕЛ.** У аддзеле турызму "Нацыянальнага парку "Нарачанскі" завяршаюць распрацоўку новага экскурсійнага маршруту. Прысвечаны ён падзеям Першай сусветнай вайны.

Тэматычны маршрут "Скрозь час" уключае аб'екты ў Мядзельскім, Вілейскім і Смаргонскім раёнах, расказала начальнік аддзела турызму Нацыянальнага парку "Нарачанскі" **Людміла Краўчонак.**

Першых экскурсантаў плануюць правезці па ім у снежні. Актыўна выкарыстоўваць маршрут збіраюцца з наступнай вясны.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВІНЫ

## У Астраўцы адчыняюць новую школу і дзіцячы садок

**АСТРАВЕЦ.** Адкрыццё навучальных устаноў у новым мікрараёне запланавана на 20 снежня.

У новым садку-яслях №1 будуць працаваць 10 груп, дзве з якіх будуць інтэграваныя.

Усяго дзіцячы садок разлічаны на 190 месцаў.

– Цяпер галоўнае пытанне да адкрыцця садка – знайсці медыцынскую сястру, каб запрацавала і санаторная група, – расказала метадыст Астравецкага аддзела адукацыі **Ірына Ган.**

Агульнаадукацыйную школу адчыняць таксама 20 снежня ў раёне новабудоўлі.

**Наталля ТУР.**

## Вілейскаму РАУС споўнілася 75

**ВІЛЕЙКА.** У Палацы культуры 14 лістапада адзначылі 75-годдзе стварэння Вілейскага райаддзела ўнутраных спраў.

Узнагародамі адзначылі лепшых супрацоўнікаў райаддзела, павіншавалі ветэранаў. Добры настрой стварыў на свяце ансамбль казацкай песні "Бацька Атаман".

Абласное ўпраўленне Народнага камісарыята ўнутраных спраў і гарадское аддзяленне міліцыі ў Вілейцы стварылі 2 лістапада 1939 года.

## Трое мядзяльчан трапілі ў фінал

**МЯДЗЕЛ.** Сталі вядомыя фіналісты конкурсу юных вакалістаў "Звонкая раніца-5".

Па выніках кастынгаў у фінале возьмуць удзел 39 падлеткаў. Сярод іх тры прадстаўнікі рэгіёна – мядзяльчане **Аляксандр Нікіценка, Ілья Семяненка, Кацярына Ардынец.**

Кастынгі праходзілі ў 12 гарадах Беларусі, у тым ліку ў Мядзеле.

Фінал конкурсу пройдзе ад 10 да 30 студзеня 2015 года ў Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры "Зубраня". Фіналістаў чакаюць заняткі з педагогамі па вакале і харэаграфіі, майстар-класы па сцэнічным руху і маўленні, справаздачныя канцэрты.

Пачалося sms-галасаванне за фіналістаў. Відэазапісы выступленняў можна паглядзець на сайце "Звонкай раніцы".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЗДАРЭННІ

## Маладзён у Вілейцы захоўваў экстракт опію

**ВІЛЕЙКА.** У панядзелак, 17 лістапада, узбудзілі крымінальную справу за захоўванне наркатычных сродкаў у адносінах да 24-гадовага мужчыны.

Месяц таму пры праверцы аператыўнай інфармацыі ў кватэры ў Вілейцы затрымалі гэтага маладзёна. У яго пры сабе была палімерная бутэлька з мутнай вадкасцю.

Яе забралі і адправілі на экспертызу. Эксперты ўстанавілі, што ў бутэльцы знаходзіўся экстракт опію, распавёў намеснік начальніка РАУС начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык.**

Мужчына можа быць пакараны абмежаваннем волі на тэрмін да пяці год або пазбаўленнем волі на тэрмін ад двух да пяці год.

**Аддзел інфармацыі.**

ГАСПАДАРКА

# Ці нашкодзяць экалогіі свінакомплексы

## Прайшла экалагічная экспертыза будаўніцтва свінакомплексаў у раёне вёсак Мойсічы і Соўлава

**МАЛАДЗЕЧНА. Гараджане нібыта ўзрушаныя магчымым будаўніцтвам свінакомплексаў каля Маладзечна.**

Аднак у райвыканкам паступілі толькі тры заявы на гэты конт.

Аб гэтым расказаў намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Генадзь Актанаровіч.**

Да 30 лістапада маладзечанцы могуць азнаёміцца са справаздачай аб ацэнцы ўздзеяння свінакомплексаў на навакольнае асяроддзе, якая размешчана на афіцыйным сайце райвыканкама. Прывядзём вытрымкі са справаздачы.



Фота buzzcarl.com

Будучыя гадаванцы верагодных свінакомплексаў выклікалі вялікае абмеркаванне сярод гараджан. Свае прапановы на гэты конт даслалі трое маладзечанцаў.

### Азеляненні засцерагуць ад забруджванняў

У тэксце адзначана, што забруджванне паверхневых вод можа быць як на этапе будаўніцтва, так і ў перыяд эксплуатацыі комплексаў. Падчас будаўніцтва асноўнымі крыніцамі забруджвання будуць вытворчыя і бытавыя сцёкі, хімічныя і механічныя забруджванні з будаўнічых пляцовак. У перыяд эксплуатацыі – выкіды тэхналагічнага абсталявання і транспарту, забруджванне супрацьгалалёднымі рэагентамі, смецце.

Паводле падлікаў, устанавілі, што істотнага забруджвання паветра не будзе. Дапамогуць пазбегнуць гэтага зялёныя насаджэнні каля свінакомплексаў. Яны дапамогуць выключыць развіццё эрозіі ў грунце, а таксама палепшыць яго. Азеляненні дапамогуць засцерагчы жылую зону ад атмасферных забруджванняў.

Па заключэнні экалагічнай камісіі, прадстаўнікі жывёльнага і расліннага свету не пацерпяць ад будаўніцтва свінакомплексаў, яны прыстасаваныя да жыцця ў такіх умовах.

### Забруджванні ад будаўніцтва будуць, але неістотныя

Адходы, якія будуць збірацца на тэрыторыях свінакомплексаў, плануюць збіраць асобна і своечасова прыбіраць з пляцовак. У спісе мерапрыемстваў, якія будуць мінімізаваць дрэннае ўздзеянне: выкарыстанне герметычных бункераў для захавання кармоў, перавоз рэчываў для дэзінфекцыі ў закрытых цыстэрнах.

У падсумаванні справаздачы адзначылі, што стварэнне свінакомплексаў будзе спрыяць выкананню праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёна і вобласці. Выкіды ад свінаферм не павялічаць гігіенічных нарматываў для жылой зоны. Негатыўнае ўздзеянне свінакомплексу на паветра, паверхневыя і падземныя воды, грунт, жывёльны і раслінны свет, на чалавека неістотнае. Рызыку небяспечных сітуацый ацэньваюць як мінімальную.

Спецыялісты робяць выснову, што будаўніцтва свінакомплексаў у Маладзечанскім раёне магчымае.

### На свінакомплексах будуць лагуны і вадзяная падушка

**Андрэй Шахэміраў**, начальнік упраўлення дзяржаўнай экалагічнай экспертызы праектаў і аператыўнага кантролю Мінскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, заўважыў:

– Свінакомплексы плануюць пабудаваць так, каб на навакольнае асяроддзе выкіды былі мінімальныя. Будзе выкарыстаны досвед іншых краін – установяць лагуны з плёначным пакрыццём. Яны дапамогуць збіраць гной так, каб ён не трапляў у навакольнае асяроддзе.

Андрэй Шахэміраў заўважыў, што надзейней было б, каб лагуны былі жалезабетонныя. Хаця падкрэслівае, што ў краіне не назапашана досвед, наколькі такія прыстасаванні падвержаныя карозіі.

Спецыяліст абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя гаворыць, што на свінакомплексах змесцяць вадзяную падушку, якая будзе часткова спыняць выкіды ў наваколле.

### Прадугледжаная сістэма кропельнага паення і рацыянальнага кармлення

З новаўвядзенняў, якія будуць на свінакомплексах, – сістэма кропельнага паення.

– Пры дапамозе яе кожная свіння можа піць столькі, колькі ёй трэба, – заўважае начальнік упраўлення дзяржаўнай экалагічнай экспертызы праектаў і аператыўнага кантролю Мінскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. – Таксама будзе сістэма рацыянальнага кармлення. Пры гэтым кармы будуць збалансаваныя, каб павялічыць прырост свіней.

Андрэй Шахэміраў падкрэсліў, што базавы памер санітарна-ахоўнай зоны – адзін кіламетр. Вёска Мойсічы знаходзіцца ў трох кіламетрах ад Маладзечна, Соўлава – у 18 кіламетрах.

### Негатыўны ўплыў на навакольнае асяроддзе будзе

Каардынатар праектаў па адходах цэнтра экалагічных рашэнняў **Анатоль Калач** пацвердзіў:

– Сапраўды, памер базавай санітарна-ахоўнай зоны – адзін кіламетр. Але гэта ніяк не засцерагае жыхароў навакольных вёсак ад непрыемных пахаў. У большасці выпадкаў, звязаных з такой вытворчасцю, яны непазбежныя.

Ён адзначае, што ў першыя перыяд эксплуатацыі комплексу не абысці праблемы з адходамі ад жывёлагадоўлі. Прадугледжана, што пасля каранціну значны аб'ём адходаў ад свінакомплексу будзе размеркаваны па навакольных палетках.

– Хацелася б верыць, – заўважае Анатоль Калач, – што спецыялісты правялі пэўныя разлікі, па якіх распрацаваны сельскагаспадарчы план размеркавання гною. У залежнасці ад гэтага можна сказаць, ці паўплываюць дадзеныя мерапрыемствы на грунтавыя воды і бліжэйшыя водныя аб'екты. Такія значныя аб'ёмы адходаў жывёлагадоўлі могуць мець патэнцыйна значны негатыўны ўплыў на якасць навакольнага асяроддзя.

Анатоль Калач гаворыць, што вельмі важным эколагі лічаць выкарыстанне біягазавых тэхналогій.

– Яны дапамагаюць значна зменшыць уплыў на навакольнае асяроддзе. Гэта дазваляе выпрацоўваць біягаз. Яго можа выкарыстоўваць само прадпрыемства. А таксама гэта зніжае таксічнасць і колькасць адходаў.

### Думка чытача: экалогія не пагоршыцца

Адзін з чытачоў, які прасіў не называць яго, лічыць, што найлепшая адлегласць свінакомплексаў ад Маладзечна – 20 кіламетраў.

– Яна аптымальная, – каментуе ён. – Калі бліжэй, то горад праз 50 гадоў абхопяць свінакомплексы. Горад разбудоўваецца ў гэтым накірунку.

На яго думку, экалагічная сітуацыя ў раёне не пагоршыцца пасля будаўніцтва свінакомплексаў. Чытач мяркуе:

– Базавыя станцыі сотавай сувязі і лініі электраперадач больш уплываюць на экалогію і на чалавека.

Ён не звяртаўся ў райвыканкам з прапановамі, бо асабіста размаўляў з заказчыкамі.



Галіна СІНІЦА.
E-mail: 8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92

| Курсы валют НБ РБ | 13.11 | 20.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 740,00 | **10 770,00** |
| Еўра | 13 420,00 | **13 480,00** |
| Злоты | 3 173,76 | **3 205,50** |
| Літ | 3 881,50 | **3 912,52** |
| Расійскі рубель | 232,50 | **229,50** |
| Грыўня | 686,90 | **708,55** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 19.11** | | |
| Еўра | 13340 /13500 | **13480/13650** |
| Долар ЗША | 10740 /10840 | **10830/10930** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 12.11 | 19.11 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 50900 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29500 | **-** |
| Селядзец, 1 кг | 32800 | **-** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 95000 | **-** |
| Рыс, 0,9 кг | 13000 | **13000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 9800 | **10400** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 14300 | **14300** |
| Маянэз, 200 г | 6000 | **6000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 11700 | **11700** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10700 | **10700** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Капуста, 1 кг | 2500 | **2500** |
| Морква, 1 кг | 4000 | **4500** |
| Буракі, 1 кг | 5000 | **4500** |
| Лімоны, 1 кг | 15000 | **18500** |
| Апельсіны, 1 кг | 16000 | **15900** |
| Мандарыны, 1 кг | 26500 | **21500** |
| Памідоры, 1 кг | 20000 | **22900** |
| Агуркі, 1 кг | 19500 | **22900** |
| Перац, 1 кг | 15000 | **15000** |
| Дыня, 1 кг | 15000 | **8000** |
| Вінаград, 1 кг | 16900 | **16900** |
| Бананы, 1 кг | 14000 | **12900** |
| Хурма, 1 кг | 22000 | **22900** |
| Яблыкі, 1 кг | 9500 | **9500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 18000 | **18900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | **50000** |

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

## Аналагавае тэлебачанне адключаць да 15 мая 2015 года

**Аб гэтым паведаміў кіраўнік упраўлення электрасувязі Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Павел Петрулевіч.**

Для прыёму сігналу неабходны тэлевізар з падтрымкай сігналу DVB-T і фармату кадзіравання MPEG-4 і лічбавая тэлевізійная прыстаўка з аналагічнымі параметрамі. Яна падключаецца да звычайнага тэлевізара.

Для інфармавання насельніцтва аб пераходзе на лічбавае эфірнае тэлебачанне створаная даведачная служба. На яе можна патэлефанаваць па нумары **172**. Сёлета ў службу паступіла ўжо больш за 24 тысячы званкоў.

**Паводле БелТА.**



Фота Фота Івана ВАЙЦЯШОНКА.

Вілейка, плошча Леніна.

● У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Аўтапарк зрывае рэйсы і не прыносіць грошы

**ВІЛЕЙКА. Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржаўнага кантролю знайшоў правапарушэнні падчас праверкі філіяла "Аўтобусны парк 5 ААТ "Мінаблаўтатранс".**

Для стабілізацыі транспартнага абслугоўвання сёлета аўтапарк за кошт раённага бюджэту набыў чатыры аўтобусы. У красавіку – два ПАЗы, у жніўні – два МАЗы, яму таксама перадалі тры аўтобусы "Радзіміч" з іншых аўтапаркаў. Агулам сем аўтобусаў.

Але праблему транспартнага абслугоўвання аўтапарк не вырашыў дагэтуль. Як і раней, аўтобусы спазняюцца, а рэйсы зрываюцца.

Вось некалькі такіх выпадкаў. 2 кастрычніка сарваліся два рэйсы Вілейка-Маладзечна. 3 кастрычніка – два рэйсы маршруту №1. 4 кастрычніка сарваліся чатыры рэйсы маршруту №4 і пяць рэйсаў маршруту №1.

Пры гэтым у аўтапарку ёсць транспартныя сродкі, якія прастойвалі ад паўгода да больш чым два гады.

Напрыклад, ад сакавіка 2012 года прастойваюць два аўтобусы "Радзіміч". Яшчэ два "Радзімічы" прастойваюць ад леташніх сакавіка і лістапада, ад студзеня – МАЗ, ад чэрвеня – ПАЗ.

**Ад работы маршрутных аўтобусаў за студзень-верасень сёлета філіял атрымаў страт амаль на два мільярды рублёў.**

Аўтапарк №5 перавозіў грузы на многа тон самазваламі, перавышаючы дазволеную масу, без спецыяльных дазволаў на праезд, а таксама без адпаведнай аплаты ў бюджэт. Агулам аўтапарк не аплаціў за праезд па дарогах агульнага карыстання 382 мільёны рублёў.

У 2012-2014 гадах філіял выкарыстоўваў паліва без зацверджаных нормаў расходу. Крэдытныя рэсурсы выкарыстоўваліся не па мэтавым прызначэнні. Знайшлі таксама парушэнні ў вядзенні дакументацыі, распараджэнні з адходамі.

Вінаватых службовых асоб прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці. Матэрыялы праверкі дзяржкантроль перадаў у праваахоўныя органы.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

● ЗДАРОЎЕ

## У Маладзечне прайшлі вучэнні па барацьбе з ліхаманкай Эбола

**МАЛАДЗЕЧНА. Яны адбыліся ў пятніцу, 14 лістапада, у гарадской паліклініцы №1.**

Для медыкаў горада правялі інструктаж, як неабходна лячыць хворага, якія дзеянні паслядоўна павінны выконваць медыцынскія работнікі, каб засцерагчы сябе ад хваробы. Наглядна паказалі, як павінны адпрацаваць спецыялісты на кожным этапе работы: калі толькі паступіў пацыент, калі апрацоўваюць памяшканне.

Прадстаўнікі Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі настойліва рэкамендавалі кожнаму медыку надзець і зняць па правілах супрацьчумны касцюм. Менавіта у ім будуць працаваць работнікі, калі ў Маладзечне з'явіцца хворыя з вірусам Эбола.

Загадчыца аддзела эпідэміялогіі Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Людміла Ермачэня** распавяла для "РГ", чаму гэтыя вучэнні актуальныя:

– Верагоднасць таго, што ў Маладзечне з'явіцца хворы на Эболу, мінімальная. Але цалкам выключыць яе мы не можам, таму лепш быць падрыхтаванымі. Летась у політэхнічным каледжы вучылася дзевяць навучэнцаў з Нігерыі. Сёлета, здаецца, таксама могуць прыехаць пасля новага года.

### Гігіена засцеражэ ад хваробы

Для маладзечанскіх медыкаў ёсць 301 супрацьчумны касцюм, 34 касцюмы маюць спецыялісты Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Столькі работнікаў змогуць займацца лячэннем хворых.

Спецыяліст адзначыла, што медыкам пры лячэнні пацыента неабходна выконваць усе правілы работы ў супрацьчумным касцюме. Гэта засцерагае работнікаў ад заражэння.

Людміла Ермачэня адказала, што ў такім выпадку дактары змогуць адчуваць сябе ў бяспецы:

– Касцюм засцерагае цалкам. Узнікае пытанне, чаму медыкі, якія лячылі хворых, самі падхопліваі вірус. Справа ў тым, што ў афрыканскіх шпіталях, дзе лячылі хворых, антысанітарыя. Медыкі працуюць без пальчатак, санітарна-гігіенічных касцюмаў. Калі нават пашкодзіцца пальчатка, а медык будзе дзейнічаць па алгарытме, то ніколі не захварэе. Там гэтага няма.

Падчас вучэнняў спецыялісты адзначылі, што вірус Эбола не перадаецца раз паветра. Ён перадаецца фекальна-аральным шляхам, а таксама праз вадкасці арганізма. У сперме, напрыклад, жыве два месяцы.

### Вакцыны ад Эболы няма

Паводле Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, вірус Эбола выклікае да 90% смяротнасці. Вакцыны ад яго яшчэ няма. Пакуль не знайшлося кампаніі, якая б уклала грошы ў распрацоўку. Рынак збыту быў бы вельмі абмежаваны: за 36 год захварэла 2 200 чалавек.

Вірус упершыню зафіксавалі ў 1976 годзе. Ён узнік у Заходняй Афрыцы. Як мяркуюць спецыялісты, перадаецца ад чалавека чалавеку. А распаўсюджанне выклікана тым, што побач з хворым ні медыкі, ні сваякі не выконваюць санітарныя правілы.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● ЗДАРЭННІ

## Вынеслі з дому ноўтбук і мабільнік

**ВІЛЕЙКА.** Крадзеж у вёсцы Рабунь Крывасельскага сельсавета адбыўся ўдзень 11 лістапада. Гаспадар пайшоў з дому на некалькі гадзін. На ўваходных дзвярах вісеў замок, але ён быў не зачынены на ключ.

Злодзей прычыніў страт амаль на 6,5 мільёна рублёў, паведаміў следчы Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Віталь Кляўда.**

**Аддзел інфармацыі.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Праверацць, як перавозяць дзяцей

**МАЛАДЗЕЧНА.** Для таго, каб захаваць жыццё і здароўе дзяцей-пасажыраў, ДАІ правядзе праверку, як кіроўцы выконваюць дапаўненні заканадаўства наконт перавозкі непаўнагадовых.

Ад 20 да 27 лістапада дзяржаўтаінспекцыя праводзіць рэспубліканскую прафілактычную акцыю пад дэвізам "Зрабі паездку бяспечнай!"

Міліцыя праверыць кіроўцаў, якія ігнаруюць правілы перавозкі дзяцей і пасажыраў, а таксама самі пасажыры.

Сёлета за 10 месяцаў у Беларусі зарэгістравана 3 487 аварый, у якіх загінула 580 чалавек. Дзеці сталі ўдзельнікамі 128 ДТЗ, у якіх сямёра загінулі.

## Звернуць увагу на пешаходаў

ДАІ Мінскай вобласці 28 лістапада праводзіць адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам "Пешаход! Паважай пешаходны пераход!".

Яго мэта – прафілактыка аварый па віне пешаходаў.

## Прайшоў дзень памяці ахвяраў аварый

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ён адбыўся ў нядзелю, 16 лістапада.

Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці прасіла кіроўцаў пры руху днём уключаць бліжні свет фар.

Гэтым яны ўшаноўвалі памяць загінулых у дарожна-транспартных здарэнях.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

● ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Пройдзе спецыяльная аперацыя "Пасажыр"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Яна будзе доўжыцца ад 18 да 22 лістапада.

Аперацыя накіравана на бяспеку пасажыраў і членаў цягніковых брыгад. На выяўленне і недапушчэнне правапарушэнняў у цягніках.

**Каб не стаць ахвярай злачынстваў у цягніках, выконвайце наступныя правілы:**

- заходзячы каштоўныя рэчы пры сабе;
- не пакідайце маёмасць без нагляду;
- не перадавайце рэчы незнаёмым людзям;
- не піце спіртных напояў у цягніках;
- не спіце ў цягніках, калі маеце пры сабе каштоўныя рэчы ці грошы;
- не давайце мабільны тэлефон незнаёмым.

Калі вы сталі ахвярай або відавочцам злачынстваў у цягніках, звяртайцеся ў аператыўна-дзяжурную службу Маладзечанскага АУСТ па тэлефонах: **(80176) 770986, (80176) 742416** або **102.**

**Паводле інфармацыі Таццяны СУБАЧ, старшага інспектара службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Жанчына паехала на заробкі ў Расію і знікла

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае зніклую **Марыю Раманаўну Кацельнікаву.**



Яна нарадзілася 20 лістапада 1971 года, 43 гады. Жыве па вуліцы Францішка Скарыны ў Маладзечне.

1 кастрычніка яна паехала на заробкі ў Расійскую Федэрацыю, у горад Губкінскі ў Ямала-Нянецкай аўтаномнай акрузе, і не вярнулася.

**Прыкметы:** рост 170 сантыметраў, смуглы твар, зялёныя вочы, прамыя цёмныя валасы, глухі голас.

**Была апранутая** ў блакітныя джынсы, кароткую карычневую куртку, карычневыя красоўкі.

Пры сабе мела пашпарт.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне зніклай, паведаміць па тэлефонах: **8 (0176) 74-96-83, 77-03-12, 77-16-56 ці 102.**

**Аддзел крымінальнага вышуку Маладзечанскага РАУС.**

ГІСТОРЫЯ

# Як сваяк Нікадзіма Сілівановіча даведаўся пра знакамітага продка

**ВІЛЕЙКА. Напрыканцы снежня адзначаць 180 гадавіну ад нараджэння вядомага ўраджэнца Вілейшчыны – жывапісца, акадэміка Імператарскай акадэміі мастацтваў Нікадзіма Сілівановіча.**

Яго асобу даследуе віляйчанін **Віталь Курдэка**, які зараз жыве у Санкт-Пецярбургу. Віталь расказаў, якую ролю ў яго жыцці адыграў мастак і далёкі сваяк:

– Упершыню пра Сілівановіча даведаўся ад свайго дзядулі вясной 2000 года. Быў выхадны, дзядуля закалоў парася, і ўся сям'я сабралася за сталом. Я вучыўся ў восьмым класе школы №3 Вілейкі. Ужо тады быў захоплены жывапісам, займаўся ў студыі **Эдуарда Мацюшонка**. У сярэдзіне святкавання дзядуля **Мікалай** пытаецца: "Унук, якія планы на будучыню? Кім ты хочаш стаць?"

Не задумваючыся, адказаў, што хачу пасля школы вучыцца на мастака. І тут дзядуля кажа: "Унук, а ты ведаеш, што сярод нашых далёкіх продкаў быў мастак?"

Я быў здзіўлены. Раней ніхто ў сям'і, нават мае бацькі, пра гэта не казаў. Тут мае цётка і тата падхапілі размову: "Так, памятаем, наша бабуля **Юзэфа** спрабавала нам расказваць пра мастака з Пецярбурга."

Мяне гэта моцна зацікавіла. Пачаў засыпаць дзядулю пытаннямі: "Як завуць, калі гэта было, што яшчэ ведаеш?"

Дзядуля працягнуў: "Мая мама **Юзэфа Курдэка** (дзявочае прозвішча Сілівановіч) расказвала, што калі яна была маленькая, у вёску Цынцавічы неаднойчы прыязджаў з Санкт-Пецярбурга мастак. Прывозіў шмат гасцінцаў і падоўгу жыў у іх доме. А адзін раз мастак прывёз фабрычны ткацкі станок – першы ў вёсцы. Надалей нашу сям'ю пачалі называць "Ткачы".

## Студэнты з Пецярбурга збіралі інфармацыю пра мастака

Задаў пытанне, чаму раней ніхто пра гэта не расказваў. Дзядуля патлумачыў, што ў тыя часы нікому гэта не было цікава. Бабуля Юзэфа шмат расказвала пра мастака з Пецярбурга, але дзядуля не запамінаў яе аповеды. Адзінае, што памятае, калі ён быў маленькі, у Цынцавічы з Пецярбурга прыязджалі студэнты і збіралі інфармацыю ў мясцовых жыхароў пра мастака.

"А як звалі мастака?" – спытаў у дзядулі.

"Нікадзімам", – адказаў ён. – "Дык вось на плошчы Свабоды выставачную залу яго імем назвалі".

Вось так даведаўся пра тое, што сярод маіх далёкіх продкаў быў таленавіты мастак з Пецярбурга, якога звалі Нікадзім Сілівановіч.

Той дзень паўплываў на маё жыццё. Прайшло паўтара года. Я скончыў дзявяты клас і паступіў у Віцебскі дзяржаўны каледж мастацтваў на аддзяленне "станковы жывапіс". У канцы першага курса адбылася яшчэ адна падзея, якая падштурхнула мяне да актыўных дзеянняў у пошуку інфармацыі пра мастака. І ў далейшым гэта стала справай жыцця.

## Знайшлі магілу бацькі мастака

За час даследаванняў было шмат розных адкрыццяў. Першае, калі ў 2001 годзе на старых каталіцкіх могілках у Цынцавічах мы з бацькам знайшлі магілу бацькі мастака. Астатнія адкрыцці ўжо адбываліся, калі пасля атрымання дыплома з'ехаў працаваць у Санкт-Пецярбург. У храме Спаса-на-Крыві выявіў мазаіку Сілівановіча "Уваскрэсенне" (1895-1901 гады). Яна выкананая з працы **Міхаіла Несцерава** для паўднёвага кіёта храма.

Калі пачаў наведваць Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны архіў, знайшоў цікавыя дакументы. Яны сведчаць, што Нікадзім Сілівановіч прымаў удзел у стварэнні яшчэ некалькіх мазаічных вобразаў, аб якіх не было вядома раней.

*Больш падрабязна аб знаходках можна будзе пачытаць у матэрыяле пра Нікадзіма Сілівановіча, які будзе змешчаны у бліжэйшых нумарах газеты.*

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота забяспечана Віталём КУРДЭКАМ.

**Віталь Курдэка з дзядулем Мікалаем каля памятнага знака Сілівановічу ў вёсцы Цынцавічы (красавік 2014 года).**

**Даведка "РГ"** Кіёт – асаблівая ўпрыгожаная шафа (часта створкавая) або зашклёная паліца для абразоў.

● АСОБЫ

# Як паэт дабег да “Лепшага твора” года

**МЯДЗЕЛ. Паэт з Мядзела Аляксандр Быкаў сёлета стаў уладальнікам ганаровага для творцаў знака-сімвала “Залаты Купідон”. Узнагародзілі яго за трэці зборнік – “За межы круга”.**




Фота забяспечана Аляксандрам БЫКАВЫМ.

**Хоць вершы на бягу і не ствараюцца, заняткі бегам дапамагаюць творчасці, прызнаецца паэт з Мядзела Аляксандр Быкаў.**

У размове паэт і журналіст прызнаўся, што пасля пераезду на Мядзельшчыну стаў пісаць вершы выключна па-беларуску. Прыгадаў, як вершы дапамаглі зацікавіць будучую жонку. Адказаў, як творчасці дапамагае захапленне бегам.

### На Мядзельшчыне беларускага слова не цураліся

Нарадзіўся Аляксандр Быкаў у Барысаве. Першы яго паэтычны твор надрукавалі ў Барысаўскай гарадской газеце ў 1976 годзе – праз год пасля вяртання з арміі.

Адразу пісаў вершы па-руску. На беларускую мову перайшоў, калі ў 1985 годзе пераехаў з сям'ёй жыць у Мядзел.

– Тут стаў працаваць у беларускамоўнай газеце. Але ж пісаць вершы па-беларуску мяне ніхто не прымушаў. Што падштурхнула? Пэўна, асяроддзе людзей, якія засталіся яшчэ з даўняга часу. Каранi беларускія тут былі жывыя, хай і перамешаныя з польскімі.

**У параўнанні з Барысавам на Мядзельшчыне беларускага слова не цураліся. Тут пашчасціла акунуцца ў атмасферу нязмушанай беларускасці.**

**– А да гэтага вершы па-беларуску пісалі?**

– Было некалькі спробаў. Барысаўскі сябра **Павел Магілін** яшчэ тады казаў, што трэба пачынаць пісаць на роднай мове. Па-руску вершы складаліся гладка, але былі нейкія негрунтоўныя. На беларускай мове пісаць было цяжка, не проста падшукваў патрэбныя словы.

Калі паэт пераязджаў у Мядзел, Павел Магілін падарыў яму руска-беларускі слоўнік – бы прадчуваў будучую творчую сцяжынку земляка.

Ад таго часу Аляксандр не напісаў ніводнага верша па-руску – калі не лічыць, што па нейкай прыватнай просьбе зроблена.

### “Вершы не для стадыёнаў”

Мядзяльчанін пагаджаецца, што цікавасць да паэзіі за апошнія дзесяцігоддзі істотна зменшылася.

– Але вершы ўсё роўна чытаюць. Нават калі хоць некалькім людзям цікава, твой верш ім спатрэбіўся – ужо недарэмна стараўся. Сярод жончыных аднавяскоўцаў ёсць былая настаўніца, якой цяпер за 80 год. Дык яна амаль штодня чытае “За межы круга” на ноч. Цікавасць да класічнай паэзіі падае, цяпер больш ухіл у нейкія мадэрнісцкія плыні. Раней казалі, і з гэтым пагаджаюся, што трэба навучыцца пісаць спачатку класічна. А толькі потым шукаць новыя падыходы, каб здзівіць людзей.

**– А самі ці спрабавалі па-сучаснаму пісаць?**

– Жартам спрабаваў, але душа ляжыць усё ж да класічнай паэзіі. Мяркую, такія вершы будуць жыць доўга: бо свет усё адрыне, а класічнае – яно застанецца.

Аляксандр Быкаў не надта сумуе па тым часе, калі паэты збіралі стадыёны:

– Стадыёны ўсё ж такі для футбола, канцэртаў. А вершы – гэта размова з чытачом сам-насам. І калі яна пераносіцца на вялікую аўдыторыю, гэта ўжо больш шоу, чым сапраўдная паэтычная сустрэча.

**– Кажаце, што рады, калі вашы вершы камусьці дапамогуць. А вам яны ці дапамагалі?**

– У час маёй маладосці паэт цаніўся. На чым і мая будучая жонка Тацццяна была “злоўленая”: спакусілася на чалавека, які піша вершы. Яна і стала першым маім крытыкам.

**А зараз вершы дапамагаюць рэалізавацца памкненням душы, выказаць тое, што набалела. У вершах ты найбольш шчыры. Ты можаш змяніць чалавеку, а там – не. Калі гэты верш, вядома, сапраўдны.**

*Нават калі чалавек піша для сябе, гэта ўжо добра. Галоўнае, што ён жыве нейкімі іншымі пачуццямі, адрываецца ад будзённасці.*

### Ад Вазнясенскага да Барадуліна

У савецкі час Аляксандра вабіла творчасць **Андрэя Вазнясенскага і Яўгена Еўтушэнкі**. А з беларускіх паэтаў уразіў **Рыгор Барадулін**. Асабліва яго кніга “Ксты”:

– Кніга з філасофскадухоўным зместам, яна быццам падсумоўвае жыццёвы і творчы шлях паэта. Думаю, на заканчэнне свайго жыцця Рыгор Барадулін зрабіў тое, што хацеў.

Цікавіць творчасць **Уладзіміра Караткевіча**. Ён вядомы больш як празаік, але ў яго ёсць і вельмі добрыя вершы.

### Адолеў зямны экватар

Аляксандр з дзяцінства любіў гуляць у шахматы, мае разрад. А год каля дваццаці таму выпрашаў заняцца бегам.

– Са здароўем здарыўся нейкі хіб. Падумаў: “А мне ж няшмат за 40 год”. Вёў тады лад жыцця, як і большасць людзей: святы ды іншыя мерапрыемствы не прапускаў. А калісьці ж марыў у космас паляцець.

Разам з мядзяльчанінам **Андрэем Паспелавым** шмат год правялі ў штодзённых трэніроўках, удзельнічалі ў спаборніцтвах.

– Дзякуючы бегу ўмацаваў здароўе, і атмасфера сямейная палепшылася. А яшчэ паглядзеў родную краіну, удзельнічаў у міжнародных прабегах у Расіі і Украіне.

На рахунку мядзяльчаніна каля трыццаці марафонаў. Найбольшая дыстанцыя, што пакрылася, – 61 кіламетр вакол возера Нарач. Зямны экватар, 40 тысяч кіламетраў, даўно ўжо адолеў. На спаборніцтвах не раз займаў першыя месцы ў сваёй узроставай групе. Але не гэта галоўнае.

– Перакананы, што недарэмна столькі часу бегу аддаў. І па сённяшні маю падтрымку жонкі. Заўсёды, калі пачынаю вагаца (маўляў, можа кінуць?), Тацццяна кажа: “Ідзі і купляй якія хочаш красоўкі, толькі не кідай бегаць!”

**– Бег ці дапамагае творчасці?**

– Безумоўна, добры фізічны стан дае настрой і на творчасць.

**– А на бягу вершы ці ствараюцца?**

– Маніць не стану – не. Але калі еду ў транспарце ці сяджу на дакучлівым сходзе – бывае. Радкі, прысвечаныя Будслаўскаму касцёлу, нарадзіліся, калі на фэсце няспешна праходзіў да алтара. Магчымасці запісаць не было – адно і думаў, каб не забыць радкі, што толькі нарадзіліся.

### Узнагарода ў юбілей

Знак-сімвал “Залаты Купідон” і адпаведны Дыплом паэт атрымаў на Дні беларускага пісьменства ў Заслаўі. Аляксандру Быкаву прысудзілі першую прэмію ў рэспубліканскім літаратурным конкурсе “Лепшы твор 2013 года” ў намінацыі “Паэзія”. Сімвалічна, што ўзнагароджвалі творцу 7 верасня – якраз на яго 60-годдзе. Удзячны ён паэту-земляку **Міколу Шабовічу**, які заўжды гатовы дапамагчы на літаратурнай ніве, з'яўляецца рэдактарам яго кніг.

**– Чым гэты поспех для вас стаў?**

– Любы чалавек, які займаецца творчасцю, часта сумняваецца, наколькі варты яго занятак, ці трэба гэта каму? Узнагарода дапамагла зразумець, што пішу вершы недарэмна. І, вядома ж, абавязвае…

**Даведка “РГ”. Аляксандр Быкаў.** Нарадзіўся 7 верасня 1954 года ў Барысаве. Вучыўся ў Барысаўскай школе №11. У 1985 годзе скончыў завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі БДУ. З'яўляецца сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Выдаў тры зборнікі вершаў на беларускай мове. Працуе загадчыкам аддзела эканомікі і рыначных адносін мядзельскай раённай газеты “Нарачанская зара”.



**Алесь ВЫСОЦКІ.**
E-mail:
alvy@tut.by

● ВЫСТАВЫ

# Смаргонскія майстры могуць прапанаваць вырабы музею

**СМАРГОНЬ. Новую залу народнай творчасці плануе адкрыць краязнаўчы музей 26 лістапада.**

Па гэта распавяла дырэктар **Любоў Белуш**.

У ёй будуць паказваць работы з фонду музея, якія назапашвалі дзесяцігоддзямі. Але ёсць месца і для работ сучасных майстроў са Смаргоншчыны.

Усе вырабы, якія майстры будуць прапаноўваць, павінны быць аўтарскія і ручной работы. Работнікі музея ацэняць якасць працы. Калі яе ўзровень будзе дастаткова высокі, выраб можа заняць месца ў музеі.

Некаторыя рамеснікі яшчэ рыхтуюць свае працы адмыслова для музея, але многія ўжо падарылі. У зале будуць вырабы рэзчыка па дрэве **Сяргея Бандарэнкі**, майстрыхі па скуры **Людмілы Канаплёвай**, па лозапляценні.

Многія знойдуць цікавымі абярэгі **Веры Шоць** і роспіс па дрэве, шкле і тканіне **Ірыны Новік**.

Гэтая зала будзе бясплатнай для наведнікаў. Ахвотныя змогуць набыць некаторыя вырабы.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● НАМ ПІШУЦЬ



# Чытачы прапануюць назвы карцін мастака з Астравеччыны

**Разам з мастаком з Астравеччыны Алегам Драбышэўскім “РГ” ладзіць незвычайную акцыю. Мы прапануем чытачам прыдумаць назвы да дзвюх яго карцін. Карціны вы можаце ўбачыць на сайце rh.by.**

Першай адгукнулася чытачка з Маладзечна **Галіна Попікава**. Яе карціны расчулілі да слёз.

Пачалося ўсё з таго, што яе ўнучка **Саша**, сямікласніца гімназіі-каледжа мастацтваў, паказала газету і прапанавала свае назвы. Для адной – “Мой родны кут”, для другой – “Зіма ідзе, зіме дарогу”.

Сама ж жанчына абедзве карціны прыняла блізка да сэрца. Адна прыгадала ёй “Вясенні пейзаж”, а вось другая нібы напісаная з дзяцінства:

– Я гляджу і бачу дзяцінства ў вёсцы на Віцебшчыне. У сталінскія часы мы ў тры гадзіны ночы ішлі так па снезе, каб скрасці кармы. Каб хто злавіў, маглі ж бы забіць. Вось і стала для мяне гэта карціна “Сцежкай жыцця”.

### Філасофская думка

Чытач Андрэй прапанаваў у каментарах на сайце rh.by свае варыянты:

– Для першай “Астравецкі вэлюм”, – менавіта гэта адлюстроўвае перадвясновы снег, які сімвалізуе імправізаванае вяселле, галоўную ролю ў якім адводзіцца надыходзячай вясне, абуджэнню прыроды ад сну і г.д. Для другой – “Вечны рухавік”, – класіка філасофскай думкі, дзе статыка і дынаміка аб'яднаныя ў адзінае цэлае. Вось ён, чалавек, просты селянін, жыццё імгненне і імгненне пастаянства. А побач – Беларусь, славутая гісторыя якой складаецца з такіх момантаў-знічак.

Якія назвы абярэ мастак, мы паведамім чытачам пазней.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● КУЛЬТУРА

# Ашмянскі музей аб'яўляе фотаконкурс “Ашмяншчына вачыма сучаснікаў”

**АШМЯНЫ.** Краязнаўчы музей імя Багушэвіча прапануе ўсім ахвотным прыняць удзел у фотаконкурсе “Ашмяншчына вачыма сучаснікаў”.

Лепшыя фатаграфіі будуць прадстаўленыя на выставе, прысвечаной 75-годдзю стварэння Ашмянскага раёна. Пераможцаў чакаюць памятныя прызы.

Працы можна дасылаць на электронны адрас: oshm_muzej@mail.ru да 15 студзеня 2015 года ўключна з указаннем прозвішча, імя, імя па бацьку, назвы працы, часу яе стварэння і кантактнага тэлефона аўтара.

Пазнака “фотаконкурс” абавязковая.

**Аддзел інфармацыі.**

ГАСТРОЛІ

# Маладзечанцы не паверылі акцёрам

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні Мінскі абласны драматычны тэатр прымаў у сябе гасцей з Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа з Віцебска.**

Маладзечанскія гледачы ўбачылі тры спектаклі для дарослых. У аўторак паказалі трагікамедыю "Пахавайце мяне за плінтусам", у сераду – "Дыліжанс" па матывах твора Гі дэ Мапасана "Пышка", у чацвер коласаўцы паказвалі "Пазычанае шчасце". У Маладзечне быў 127 паказ гэтага спектакля.

## Масква слязам не верыць па-віцебску

Гісторыя, пра якую распавядаецца ў спектаклі "Пазычанае шчасце", старая як свет.

Правінцыяльная дзяўчына, якую выхоўвае адзін бацька, марыць стаць настаўніцай. Дзеля гэтага яна пакідае родную вёску і едзе ў вялікі горад. У цягніку знаёміцца з маладым, бесклапотным хлопцам Валерам.

Падзеі далей развіваюцца па сцэнары ўсім вядомага савецкага фільма. Хлопец спакушае дзяўчыну, яна ад яго зацяжарвае, але Валеры жаніцца нават не думае. Няшчасная Алачка едзе ў сваю вёску выхоўваць дачку адна.

Але каб пазбегнуць ганьбы і абгавораў у вёсцы, сяброўка Алы Раіса "пазычае" ёй свайго мужа, каб тая магла фотаздымак з вяселля паказваць у вёсцы.

Праходзіць дваццаць гадоў. Дачка Алы Валерыя збіраецца замуж. І тут падман 20-гадовай даўніны выкрываецца. Валерыя знаходзіць свайго бацьку, які так і не стаў шчаслівым, і запрашае яго на сваё вяселле. У канцы спектакля Ала і Валеры сустракаюцца, але нельга двойчы ўвайсці ў адну раку…

## "Было адчуванне, што мяне падманулі"

Прызналася пасля спектакля глядачка **Ганна Дараховіч.**

– Столькі недарэчнасцяў я яшчэ не бачыла. Хаця былі моманты, дзеля якіх варта даравіць маленькія хібы. Акцёр, што выконваў ролю "пазычанага" мужа, вышэй за ўсякую пахвалу.

І сапраўды, у спектаклі недарэчнасцяў было шмат. Па-першае, галоўная гераіня. Ролю Алы выконвала віцебская актрыса **Ніна Обухава.** Увагу ўвесь час адцягвала тое, што яна вельмі мітусілася па сцэне і ўвесь час здымала абутак.

У другім акце па сюжэце прайшло 20 год. Ала нарадзіла дзіця ў 19 год. Атрымоўваецца, што ёй цяпер 39 гадоў. Але на сцэне замест 40-гадовай, яшчэ зусім маладой жанчыны, мы бачым старую, якая не да месца крывіць ногі і спіну. Акрамя здзіўлення і адчування падману, іншых эмоцый гераіня не выклікае.

Калі разбірацца ў драбязе, то такіх непаразуменняў для аднаго спектакля было зашмат.

І тое, што бацька праз 20(!) год пазнае чалавека, якога толькі аднойчы бачыў на фотакартцы. І што Ала, нягледзячы на тое, што жыла ў сяброўкі і ведала, што яна цяжарная, праз 20 (!) год здзіўляецца таму, што ў яе ёсць дзіця.

І яшчэ адзін эпізод, які выклікаў усмешку і адчуванне таго, што гледача трымаюць за дурня. Штучныя кветкі. Жаніх Валерыі прыносіць ёй выцвілыя, некалі ружовыя штучныя кветкі, якія не існуе ў прыродзе, яны нечым нагадваюць званочкі.

Валерыя бярэ іх і кажа: "Рамонкі, мае любімыя, я зараз буду варажыць на рамонках, ці кахаеш ты мяне"…

Магчыма, гэта прыдзіркі, але агульнае ўражанне ўсё ж такі сапсаванае.

Зрэшты, не ўсім гледачам спектакль падаўся незразумелым. Глядачка **Дар'я Астахава** кажа:

– Калі казаць праўду, то сапраўды, першы акт спектакля быў трохі заблытаны, не ўсе моманты былі адразу зразумелыя. Сімвал маланкі, напрыклад. Другі ж акт быў мне як гледачу больш зразумелы. Ён месцамі быў нават трагічны, я аж заплакала ад перажыванняў. Так расчулілася трагедыяй акцёраў. Спектакль вельмі добры. Я яшчэ паглядзела б што-небудзь такое пра любоў і здраду.



Фота Наталлі ТУР.

**У галоўных ролях спектакля акцёры тэатра імя Якуба Коласа Ніна Обухава (Ала) і Арцём Блахін (Валеры).**

## Не трэба рабіць са спектакля дакументальнае кіно

У глядзельнай зале ў чацвер быў аншлаг. Сярод прысутных быў акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра і Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача **Алег Чэчанеў**.

Мы папрасілі яго падзяліцца сваімі ўражаннямі ад спектакля.

– Спектакль нагадвае старую добрую меладраму 80-х гадоў. Магчыма, таму ён цягам пяці год карыстаецца папулярнасцю ў гледача.

Алег Чэчанеў заўважыў, што калі ў спектаклі і былі некаторыя недарэчнасці, то гэта хутчэй пытанне да драматурга, а не да акцёраў і рэжысёра.

– У спектаклі шмат сімвалаў. Увогуле не трэба ставіцца да яго, як да дакументальнага кіно. Гэта ўсё ўмоўнасці, без якіх спектакль бы не адбыўся.

На пытанне, хто з акцёраў спадабаўся больш за іншых, Алег быў катэгарычны:

– Адназначна **Юрась Цвірка**. Ён выконваў ролю Барыса, "пазычанага" мужа. Я бачыў Юрася год таму. Заўсёды здзіўляюся, як пры мінімуме тэксту гэты акцёр можа стварыць сабе сапраўдны бенефіс.

Гледачы пагадзіліся ў адным – фінал спектакля пакінуў пытанні. Ці можна ўвайсці ў адну раку двойчы? Ці даруе Валеру Ала? Яна ж усе гэтыя гады жыла з пачуццём кахання да таго, хто ёй здрадзіў.

Паважаны глядач, рашаць табе.



**Наталля ТУР.**
E-mail: natali.turenok@gmail.com

ПРАФЕСІЙНАЯ АДУКАЦЫЯ

# Са смельчакоў на сцэне рабілі панкаў

**ВІЛЕЙКА. У дзяржаўным прафесійна-тэхнічным каледжы 13 лістапада прайшла шоу-праграма "Энергія прыгажосці".**

– Такую назву выбралі невыпадкова, бо менавіта прыгажосць натхняе ўсіх ствараць, удасканальвацца і станавіцца лепш, – кажа педагог-арганізатар установы **Святлана Мацукевіч**. – Адразу перад гледачамі паўстала калекцыя вобразаў старажытнага свету. На сцэну выйшлі чароўныя дзяўчаты ў белых сукенках, асветленыя яркімі агнямі. Гэта сапраўды было ўзрушліва відовішча.

Майстрыхі-цырульніцы **Вольга Сіняўская** і **Аліна Ляшчэвіч** паказалі майстар-клас па стварэнні самых незвычайных прычосак. Для гэтага з залы запрасілі смельчакоў. Бо вобразы ім стварылі вельмі смелыя: прыкладам, у панкстыль.

Напрыканцы было фінальнае дэфіле. У ім навучэнцы каледжа "прымералі" на сабе разнастайныя вобразы.

Падрыхтаваць шоу-праграму дапамаглі майстры вытворчага навучання каледжа. А ідэйным натхняльнікам стала выкладчыца **Алена Жук**.

**Аддзел інфармацыі.**






Фота зафіксавана Яўгенам МУМРЫКАВЫМ.

Фота аварыі 1985 года ў Маладзечне. На здымку справа стаяць Яўген Мумрыкаў (трымае руку ў кішэні) і Сяргей Рашатнёў. На верхнім левым здымку таксама Сяргей Рашатнёў.

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Новыя падрабязнасці аварыі 1985 года

**МАЛАДЗЕЧНА. Чатыры здымкі ДТЗ, зробленыя з розных ракурсаў, прынёс у рэдакцыю Яўген Мумрыкаў.**

Аварыя здарылася на мосце ўздоўж вуліцы Савецкай (цяпер Віленскай) у бок вуліцы Валынца. На фота як **Сяргей Рашатнёў**, так і спадар Яўген. Ён ужо на пенсіі, дагэтуль працаваў у Маладзечанскай міліцыі.

– Калі з'явілася магчымасць рабіць каляровыя здымкі, я запрашаў прафесійных фатографаў. Машына на фота належала міжкалгаснай будаўнічай арганізацыі, якой ужо не існуе. Раней яна месцілася на вуліцы Элеватарнай. Кіроўца ездзіў за парасятамі, быў п'яны. І такое здарылася.

Рашатнёў у той час працаваў інспектарам дарожна-патрульнай службы. Яўген Мумрыкаў быў старшым дзяржаўтаінспектарам. Яны сябравалі.

– Сяргей служыў ва ўнутраных войсках у Мінску. Пасля працаваў кіроўцам дзяжурнай часці. Ездзіў на аўтамабілі ГАЗ-69. Звалі гэту машыну "Люська". Потым стаў інспектарам ДПС, а пазней дарос да намесніка начальніка ДАІ. Пра гэтага чалавека заўсёды гаварылі добра, – узгадвае спадар Яўген.

Калі Яўген Мумрыкаў у 1996 годзе пайшоў на пенсію, яны з Сяргеем Рашатнёвым дамовіліся прадаць "Жыгулі".

– У яго была пяцёрка, у мяне – 11-я мадэль. Вырашылі паехаць набыць "Соткі" ("Аўдзі-100") старыя. Захацелася нам. Я набыў 83-га года. Дарэчы, і цяпер на ёй езджу. Сяргею ж у гэты час якраз прысвоілі званне маёра, і ён пайшоў у адпачынак. На наступны ж дзень пасылае сына на стаянку прыгнаць "Жыгулі", каб ехаць у ДАІ здымаць з уліку. Сын прыходзіць, кажа, што гатова. Той яго адпраўляе чакаць уніз. Чакае, а бацькі няма. А ў Сяргея прыступ. Каля тэлефона ён і памёр, – распавядае спадар Яўген.

Здарылася гэта 17 гадоў таму.

– Мы з ім сябравалі, абменьваліся жартачкамі. Напярэдадні смерці ён не раз мне казаў: "Я хутка памру".

Але спадар Яўген успрыняў гэта як чарговы жарт свайго сябра. Жыццё ж вырашыла па-іншаму.

## Два кур'ёзныя здарэнні 1970-х гадоў: як дзеда бліскавіца асляпіла і як людзі абгарэлі

**Акрамя здымкаў аварыі, змешчаных вышэй, былы міліцыянер Яўген Мумрыкаў прынёс у рэдакцыю яшчэ два фота.**

Гэтыя аварыі выклікаюць толькі ўсмешку. У іх ніхто не загінуў. Затое захаваліся гісторыі, якіх сам наўмысна не прыдумаеш.

Спадар Яўген быў на месцы і распавёў нам пра гэтыя выпадкі, звязаныя з яго прафесіяй.


Фота зафіксавана Яўгенам МУМРЫКАВЫМ.


Фота зафіксавана Яўгенам МУМРЫКАВЫМ.

### Бліскавіца

Здарэнне адбылося непадалёк ад вёскі Маркава. Па дарозе імчыць скрадзены ГАЗ-51. На паваросе стаіць дом. Жывуць у ім дзед з бабай.

Пасля здарэння Яўген Мумрыкаў распытвае дзеда пра тое, што здарылася:

– Ведаеце, з вечара нешта захмурэла, потым прыцямнела і мы са старой ляглі спаць. Пасля чую – грыміць.

А ў гэты час машына б'е пярэдняй часткай у калодзеж.

– Пасля як грымнула! Расплюшчваю вочы – бліскавіца, – завяршае аповед дзед.

Бліскавіца – калі машына ўжо прабіла сцяну, пад'ехала да ложка дзеда і фарамі яго асляпіла. Але ніхто не пацярпеў. Дом пасля аднавілі.

### Як людзі "абгарэлі"

Непадалёк ад Радашкавічаў. На дарозе стаіць абгарэлы мінскі ЛАЗ-695. Аўтобус абгарэлы цалкам, рэчы згарэлі.

А вёз гэты аўтобус купацца на Нарач студэнтаў-афрыканцаў. І яны роўненька ў радок селі непадалёк.

Кіроўца яшчэ казаў, як напакутаваўся, пакуль выпіхваў іх з аўтобуса. Яны ж перапужаліся, рухавік загарэўся.

І тут праязджае міма калгасная грузавая машына, загружаная сенам. І на ёй бабы і мужыкі. Бабскі голас: "А-я-яй! Глядзіце, глядзіце! Як абгарэлі людзі!"

– Ну а хто ў нас калі ў той час цемнаскурых людзей бачыў? – усміхаецца Яўген Мумрыкаў.

**Шаноўныя чытачы, калі і вы маеце што распавесці са свайго жыцця, пішыце, тэлефануйце ці прыходзьце да нас у рэдакцыю!**



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

КАЛЯНДАР

**21 лістапада.** 145 гадоў з дня нараджэння Казіміра Стаброўскага (1869 – 1929), беларускага жывапісца, педагога. Творчасць звязаная з мастацкім жыццём Беларусі, Польшчы, Расіі. Вучыўся ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў (1887-94), акадэміі Жуліяна ў Парыжы. Пасля 1894 года жыў і працаваў на Гродзеншчыне. Удзельнічаў у мастацкіх выставах у Пецярбургу, Парыжы, Мюнхене, Венецыі. Заснавальнік і кіраўнік (1904-09) Школы прыгожых мастацтваў у Варшаве.

***

**22 лістапада.** 70 гадоў таму назад (1944) памёр Кузьма Чорны (сапр. Раманоўскі Мікалай), пісьменнік, класік беларускай літаратуры, публіцыст, вязень савецкіх турмаў.

***

**23 лістапада.** 1866 год. У Кракаве (Польшча) памёр Адам Кіркор, беларускі і польскі гісторык, этнограф, археолаг, публіцыст, грамадскі дзеяч.

***

**1938 год.** Расстраляны Мікола Красінскі, культурны і рэлігійны дзеяч. Нарадзіўся ў Вілейцы (1886 г.).

***

**190 гадоў** таму (1824) нарадзіўся Баляслаў Русецкі (г. Рым, Італія), мастак, які працаваў ў Беларусі. Адзін час жыў у Гродне, зрабіў шэраг размалёвак у гродзенскіх касцёлах, алтарную карціну "Святы Казімір" у гродзенскай фары. Сын Канута Русецкага, мастака, педагога.

***

**24 лістапада.** 1970 год. У Клюшчанах Астравецкага р-на памёр Адольф Клімовіч, грамадскі дзеяч, журналіст, выдавец, вязень савецкіх канцлагераў.

***

**25 лістапада. 300 гадоў** таму назад (1714) нарадзіўся Тамаш Жаброўскі, асветнік, дойлід, астраном, матэматык. Магістр філасофіі і вольных навук. Выкладчык Віленскай езуіцкай акадэміі (1752 – 1758), Полацкага езуіцкага калегіума. Асноўныя архітэктурныя працы: Жодзішскі езуіцкі калегіум, Віленскі касцёл Св. Ігнацыя, абсерваторыя Віленскага езуіцкага калегіума.

***

**100 гадоў** з дня нараджэння Івана Палякова (1914 – 2004), дзяржаўнага дзеяча Беларусі.

***

**27 лістапада.** 1938 год. Расстраляны Сымон Рак-Міхайлоўскі, грамадска-палітычны дзеяч, сябар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, публіцыст, заснавальнік і дырэктар настаўніцкай семінарыі ў Барунах (1920-1922 гг.).

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

АСОБЫ

# Невідушчы выкладчык стварыў унікальны IT-дадатак

**МАЛАДЗЕЧНА. Як 28-гадовы выкладчык музычнай літаратуры спрычыніўся да стварэння дадатку на мабільныя тэлефоны, чаму пераехаў з Масквы ў Маладзечна і дзякуючы каму чалавек з абмежаванымі магчымасцямі стаў годным прафесіяналам.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Аляксандр і Вольга Еўдакімавы пазнаёміліся на ўступных іспытах у Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных. Цяпер муж і жонка жывуць у Маладзечне і выкладаюць у музычным каледжы імя Агінскага.**

Аляксандр Еўдакімаў актыўна карыстаецца адмысловай рассылкай Blind droid. Так называецца рускамоўная рассылка розных дадаткаў для невідушчых да мабільных тэлефонаў на платформе андроід. Сярод іх ёсць электронная чыталка і іншыя.

Сярод розных праграм ён заўважыў тую, што дапамагала адрозніваць грошы з дапамогай камеры мабільнага тэлефона. Яна распазнавала толькі долары і еўра. Аляксандр падумаў, чаму б не зрабіць, каб яна працавала і з іншымі валютамі.

Звярнуўся з прапановай да распрацоўшчыка праграмы. Ён адказаў, што дапрацоўваць не будзе, але гэта можа рабіць сам Аляксандр. Тады ён прапанаваў супрацу рускамоўным таленавітым невідушчым праграмістам, каб разам адаптаваць праграму.

Адгукнуўся матэматык і праграміст з Адэсы **Алег Тайструк**. Ён працуе ў школе-інтэрнаце для дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі зроку. Яны перапісалі код праграмы і дапоўнілі яе.

Цяпер дадатак Blind droid wallet (прыстасаванне, якое дапамагае невідушчаму арыентавацца ў бумажніку) мае каля 10 моў, у тым ліку рускую, славацкую і іншыя. З перакладамі дапамагалі невідушчыя з адпаведных краін. Праграма адрознівае больш за 30 валют, у тым ліку беларускія рублі.

Задума стварыць дадатак з'явілася ў красавіку, а першы прататып мелі ўжо праз месяц. Паступова дапрацоўваюць. Аляксандр плануе дадаць усе сучасныя валюты, а іх каля 160.

Каб прапісаць модуль для адной валюты, патрэбны дзень работы праграміста, прычым не творчай, а руцiннай – прапісаць хады да карцінкі і гэтак далей. Яго апрабавалі карыстальнікі, якія пішуць падзякі і прапановы па дапрацоўцы.

Непасрэдна праграмаваннем займаўся Алег, Аляксандр збіраў базу неабходных карцінак і трымаў сувязь з тымі, хто дапамагаў.

### Як невідушчаму сачыць за дарогай

Працуе дадатак наступным чынам. Запускаеце яго, падносіце валюту да камеры тэлефона. Яе скануе і шукае адпаведнік ў базе. І агучвае, напрыклад, "сто тысяч беларускіх рублёў рэверс". Каб карыстальнік разумеў, якім бокам ляжыць валюта. Грошы можна перавярнуць і праверыць з іншага боку, каб не было памылкі.

Гэта бясплатны дадатак, аналагічных праграм у свеце больш няма. Карыстальнік можа ўсталяваць базавую праграму, якая распазнае долары і еўра. Да яе можа падгрузіць модулі з тымі валютамі, якія патрэбны менавіта вам. Загрузіць можна з любога мабільнага тэлефона, які падтрымлівае платформу андроід.

– Цяпер мне вельмі зручна, – ацэньвае ён. – Адлічыў дома 30 тысяч рублёў на маршрутку і спакойна заплацІў за білет на ўваходзе.

Аляксандр заўважае, што многія мабільныя праграмы значна дапамагаюць невідушчаму. Адна з іх дапамагае сачыць за шляхам ад аднаго пункта да другога.

– Едучы ў маршрутцы, я мог папрасіць кіроўцу спыніцца праз кіламетр на святлафоры. Вельмі здзіўляліся, як невідушчы так арыентуецца. Яшчэ дадатак адсочвае хуткасць. Калі перавышэнне больш за дзесяць кіламетраў – падае сігнал. Уявіце рэакцыю кіроўцы, які сядзіць, нікога не чапае, гоніць, і раптам раздаецца сур'ёзны жаночы голас: "Вы перавысілі дапушчальную хуткасць".

### З маскоўскага крэматорыя у маладзечанскі музкаледж

Аляксандр Еўдакімаў жыве ў Маладзечне трэці год, выкладае музычную літаратуру у музкаледжы імя Агінскага. Нарадзіўся ў Падмаскоўі. У 2008 годзе на ўступных іспытах у Расійскай акадэміі музыкі сустрэў **Вольгу**.

Праз два гады яны ажаніліся. Два гады жылі ў Маскве. Аляксандр працаваў арганістам у Маскоўскім крэматорыі.

Вольга прыехала вучыцца ў Расію з Маладзечна. Пасля выпуску яе разам з мужам запрасілі выкладаць у каледжы.

Малады мужчына прызнаецца, што ў Маладзечне яму падабаецца больш:

– Зразумела, што ў Маскве круціцца больш грошай. Але адваротны бок у тым, што горад перапоўнены ахвотнымі атрымаць халяўныя сродкі. Да многіх занадта позна даходзіць, што халявы не бывае. Каб атрымаць у Маскве годны ўзровень жыцця, трэба ці пастаянна штосьці унікальнае прапаноўваць, ці жорстка тапіць слабейшых. Гэта не для мяне. Мне па душы спакойны і размераны лад жыцця тут.

### Жонка: "Ён заўсёды ў руху да росту"

Жонка Аляксандра Вольга мяркуе, што муж, нягледзячы на асаблівасць зроку, змог стаць добрым прафесіяналам дзякуючы выхаванню бацькоў і асабістым якасцям.

– У Сашы такі характар. Ён заўсёды ў руху да росту, імкнецца да самасцвярджэння. І надзвычай многа для яго поспеху зрабілі бацькі. Мама, **Ірына Віктараўна**, многа займалася з ім дома, бацька, **Сяргей Іванавіч**, так падтрымлівае.

### Навошта фізіка, каб круціць гайкі

Аляксандру падабаецца яго работа, лічыць яе годнай і цікавай.

На жаль, нямногія людзі з абмежаванымі магчымасцямі дамагаюцца годнай працы з добрым заробкам. Ён жа, згубіўшы зрок прыкладна ў дзесяць гадоў, вучыўся і атрымаў вышэйшую адукацыю, стаў прафесіяналам на адным ўзроўні з любымі іншымі калегамі.

– Стаўленне да інвалідаў як да недасканалых людзей ідзе яшчэ з савецкіх часоў, калі іх нібыта не было. Так і самі людзі пачалі саромецца сваіх асаблівасцяў. Калі ты сам будзеш падаваць сябе як недачалавека, то такое стаўленне да цябе і будзе. Калі ж ты станеш дастаткова кваліфікаваным спецыялістам, будзеш упэўнены ў сабе, да цябе і будуць ставіцца як да любога іншага.

Спадзяюся, што хутка сцэны з кінафільма "Пах жанчыны", дзе галоўны герой выдатна бавіць час, стануць не фантастыкай. Галоўная перашкода – атрымаць годную адукацыю. Ды і стымулу многія людзі не бачаць, думаючы, навошта вучыць фізіку з матэматыкай, каб круціць гайкі. Але ж і цалкам магчыма стаць, напрыклад, праграмістам. Як Алег Тайструк.

Акрамя складанасці з атрыманнем адукацыі, штодзень ёсць складанасці ў асяроддзі, заўважае Аляксандр.

Пэўныя крокі да стварэння безбар'ернага асяродку ў Беларусі робяць, але арганізатарам варта кансультавацца з тымі, для каго гэтыя рэчы робяць. Далёка не заўсёды, але здараюцца выпадкі, калі зробленае недастаткова прадуманае.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

# 40 600 рублёў зэканоміла маладзечанка на скідках за месяц

**Крама 1:** скідка **5%**
Агульная сума скідкі за месяц:
**23 350** рублёў
Сума набытага: **739 150**

**Крама 2:** скідка **2%**
Агульная сума скідкі за месяц:
**17 250** рублёў
Сума набытага: **884 950**

За агульную скідку можна набыць комплексны абед



## Тавары, якія яна набывала

**Топ-10 прадуктаў:**

1. Сырок глазураваны (10*)
2. Малако (9)
3. Банан (8)
4. Біякефір (7)
5. Крэкер (6)
6. Смятана (5)
7. Хлеб (5)
8. Папера туалетная (5)
9. Вінаград (4)
10. Ёгурт (4)
11. Нектарын (4)
12. Масла (4)
13. Персік (4)
14. Плюшка з макам (4)
15. Булачка (4)
16. Сыр (3)
17. Цыпляня-бройлер (3)
18. Памідор (3)
19. Мука (3)
20. Казінак (3)
21. Гарэлка (3)
22. Печыва аўсянае (2)
23. Карамель (2)
24. Цукеркі (2)
25. Зефір (2)
26. Марозіва (2)
27. Зубная паста (2)
28. Арахіс (1)
29. Лапша (1)
30. Сушкі (1)
31. Бальзам для посуду (1)
32. Сайка (1)
32. Тварог (1)
33. Алей (1)
34. Соус (1)
35. Капуста (1)
36. Разынкі (1)
37. Баклажан (1)
38. Спецыі (1)
39. Папая (1)
40. Піва (1)
41. Сінтэтычны мыйны сродак (1)
42. Чай (1)
43. Пена для ванны (1)
44. Агурок (1)
45. Перац (1)
46. Мыла (1)
47. Вільготныя сурвэткі (1)
48. Сурвэткі (1)
49. Макарона (1)
50. Крупы манныя (1)
51. Квас (1)
52. Батон (1)
53. Ёмістасць для тушэння (1)
54. Пельмені (1)
55. Вафлі (1)
56. Шматкі аўсяныя (1)
57. Багет (1)
58. Цукар (1)

* - лічба азначае, падчас якой колькасці паходаў у краму ўзялі гэты прадукт

Агульная сума пакупак за месяц
**1 624 100**

**Ева** збірала рахункі з дзвюх крамаў, дзе мае скідкі, цягам месяца. Яна хацела высветліць, ці ёсць **рэальная выгада** ў гэтых некалькіх працэнтах.

Большасць часу жанчына жыве ўдзвюх з дачкой. У мужа праца звязаная з камандзіроўкамі, а сын цяпер працуе ў Мінску.

Гэта амаль увесь спіс прадуктаў, якія яна набыла за месяц. Толькі некалькі разоў заходзіла ў іншыя месцы.

- Калі гэтыя крамы па дарозе, чаму не скарыстацца скідкамі? Асабліва яны адчувальныя, калі трэба рыхтавацца да свята. Крамы вялікія, і можна ў адным месцы ўзяць усё патрэбнае.









*"Я не такі багаты, каб купляць танныя рэчы".*
Барон Ротшыльд.

● **НАШЫ ГРОШЫ**

# На якую "вуду" мы трапляем у супермаркетах?

Большасць з нас хоць бы раз у некалькі дзён ды заходзяць у супермаркет. Там усё, здаецца, на сваім месцы. Але супермаркет – гэта толькі навала розных хітрасцяў маркетолагаў, каб выгадна прадаць тавар. Вось найбольш распаўсюджаныя з іх.

**1. Прыём "Вялікая цялежка"**

Часта бывае, што мы заходзім у вялікі супермаркет толькі за некалькімі рэчамі. І бяром цялежку, каб не насіцца з імі. Дык вось менавіта пустое месца ў нашай калясцы прымушае нас купіць больш, бо мы падсвядома хочам яе запоўніць.

**2. Прыём "Прыемная музыка"**

Выкарыстанне музыкі ў гандлёвай зале акавае адмысловы псіхалагічны эфект. У выхадныя, калі ў краме шмат народу, іграе дынамічная музыка, якая стымулюе да больш актыўных пакупак. У будныя дні звычайна іграе спакойная мелодыя.

**3. Прыём "Правай рукі"**

Метад правай рукі працуе такім чынам, што большасць людзей праўшы. У краме яны ходзяць супраць гадзіннай стрэлкі і на паліцы глядзяць, у першую чаргу, на тавар, які знаходзіцца ў сярэдзіне правага стэлажа.

**4. Прыём "Акцыя" і "Два па цане аднаго"**

Акцыі выкарыстоўваюцца для тавараў, якія не карыстаюцца вялікім попытам або ў якіх хутка скончыцца тэрмін прыдатнасці.

Два па кошце аднаго. Адзін са спосабаў прадаць тавары, якія дрэнна прадаюцца. Вам прапануюць купіць той жа тавар, але з умовай, што, купіўшы два (тры, пяць і г.д.), вы атрымаеце істотную скідку.

**5. Прыём "Каля касы"**

Калі вы смела прайшлі праз увесь супермаркет і ў вашай вялікай цялежцы знаходзіцца толькі самае неабходнае, але ўсё ж засталося шмат пустога месца, гэта яшчэ не ўсё. Ля касы вас чакаюць шмат батончыкаў, шакаладак і г.д. Дарэчы, многія з іх размяшчаюцца на ўзроўні вачэй дзяцей. Бо працей купіць тыя прысмакі, чым супакойваць дзіця, якое плача.

**Паводле adme.md**




Фота Максіма Дзмітрыева, sportnaviny.com.

Падчас матча футбалісты неаднойчы аказваліся на газоне.

ПЕРШАЯ ЛІГА

# “Валідольны футбол” і бойка гульцоў

**СМАРГОНЬ. Другую гульню запар футбольны клуб “Смаргонь” прапускае вырашальны гол на апошніх хвілінах.**

На дамашнім стадыёне 15 лістапада “Смаргонь” прымала сталічную “Зорка-БДУ”.

Першымі пры розыгрышы вуглавога на 28-й хвіліне вызначыліся госці. Праз пару хвілін **Мікалай Рындзюк** ударам галавой адквітаў гол.

На 45-й хвіліне ён мог зрабіць дубль. Але ўдарыў вышэй варот, як біў пенальці.

У другім тайме ў вароты “Зоркі-БДУ” прызначылі яшчэ адзін пенальці. Яго ўжо ўзяўся выканаць **Аляксей Скварнюк**. І быў дакладны. Аднак на 61-й хвіліне госці зраўнялі лік.

**Неўзабаве адбылася бойка. Пачалася яна з таго, што пасля спынення гульні сталічны футбаліст ударыў ляжачага смаргонца мячом у твар. Як вынік высвятлення адносін – па адным выдаленні ў абедзвюх камандах.**

У самым канцы матча, у дабаўленыя арбітрам хвіліны, “Смаргонь” зноў прапусціла крыўдны гол.

– Дзве каманды гулялі, як кажуць, “ад нажа”, па-сапраўднаму ў шчыры футбол. Для заўзятараў гульня атрымалася выдатная, а для трэнераў такі футбол называюць “валідольным”, – ацаніў матч галоўны трэнер гасцей **Анатоль Шкляр**.

Зразумела, што галоўны трэнер “Смаргоні” **Павел Бацюта** быў незадаволены вынікам гульні (цытуе яго афіцыйны сайт клуба):

– Пасля таго як мы павялі 2:1, лічу, што сталі дапускаць шмат памылак у абароне. Гэта прывяло да таго, што сапернік зраўняў лік. Пасля гэтага гульня стала больш адкрытай, у нас былі моманты і ў сапернікa былі моманты. Яны свае рэалізавалі, мы – не. А што тычыцца нашых турнірных амбіцый, у нас яшчэ ёсць гульня са “Слонімам”, каб рэабілітавацца за гэта крыўднае паражэнне.

Пасля гэтага матча каманда са Смаргоні пазбавілася шанцаў на трэцяе месца ў першай лізе. А яно давала магчымасць пазмагацца за месца ў вышэйшай лізе.

“Смаргонь” зараз з 45 ачкамі займае чацвертае месца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Відэа бойкі гульцоў глядзіце на нашым сайце**




НАВІНЫ

## “Дынама-Маладзечна” разграміла “Брэст” 7:0

**МАЛАДЗЕЧНА.** У першым пасля міжнароднай паўзы дамашнім матчы чэмпіянату Беларусі хакеісты “Дынама-Маладзечна” 11 лістапада перайгралі хакейны клуб “Брэст” з лікам 7:0.

“Зубры” з першых хвілін кінуліся атакаваць вароты гасцей і закінулі хуткую шайбу. Ужо на 6-й хвіліне сустрэчы вызначыўся **Аляксей Батурэвіч**.

На дасягнутым “беласінія” не спыніліся. Такі ціск выліўся яшчэ ў дзве закінутыя шайбы, паведамляе hcdinamo.by.

У другім перыядзе хакеісты “Дынама-Маладзечна” забілі яшчэ чатыры шайбы. А ў трэцім перыядзе перавагу ў сем шайбаў зберaглі.

## Спаборніцтвы па більярдзе выйграла каманда цэнтра “Надзея”

**ВІЛЕЙКА.** Спаборніцтвы па більярдзе адбыліся 8 лістапада ў цэнтры фізкультурна-аздараўленчай работы “Сатурн” . У іх прынялі ўдзел чатыры каманды. У кожнай былі па два чалавекі.

Перамагла каманда дзіцячага цэнтра “Надзея”, на другім месцы – прадстаўнікі аддзела адукацыі, спорту і турызму, на трэцім – Вілейскай ПМС.

Спаборніцтвы завяршалі круглагадовую спартакіяду сярод працоўных калектываў раёна, расказаў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчага работы “Сатурн” **Аляксандр Вайда**.

## Выратавальнікі трымаюцца ў лідарах

**ВІЛЕЙКА.** Трэці тур другога круга чэмпіянату Вілейскага раёна па валейболе пачаўся 4 лістапада.

Супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях абыгралі 3:1 каманду ЖКГ. Камунальнікі гулялі і 11 лістапада. Яны сустрэліся з камандай “Першы Беларускі” і прайгралі 1:3.

У чэмпіянаце лідзіруе каманда райаддзела па надзвычайных сітуацыях. На другім месцы – “Энергазбыт”, распавёў Аляксандр Вайда.

## Камунальнікі перамаглі ў круглагадовай спартакіядзе

**ВІЛЕЙКА.** Падвялі вынікі круглагадовай спартакіяды сярод працоўных калектываў Вілейскага раёна. Складалася яна з дзевяці відаў спаборніцтваў.

Удзельнічалі ў спартакіядзе дзевяць камандаў.

Першае месца ў круглагадовай спартакіядзе занялі прадстаўнікі Вілейскай ЖКГ. Яны перамаглі з вялікай перавагай, бо ўдзельнічалі ў большай колькасці спаборніцтваў.

Другое месца – у каманды аддзела адукацыі, спорту і турызму, трэцяе – у “Энергазбыту”.

## Далей прайшлі маладзечанкі і мядзяльчане

**МЯДЗЕЛ.** На спартыўных аб’ектах райцэнтра 14 лістапада прайшлі папярэднія спаборніцтвы чэмпіянату Мінскай вобласці па валейболе.

Сярод жанчын перамаглі маладзечанкі, другое і трэцяе месцы – у прадстаўніц Лагойскага і Мядзельскага раёнаў адпаведна.

У мужчын першае месца за мядзяльчанамі. Далей размясціліся прадстаўнікі Вілейскага і Лагойскага раёнаў, расказаў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама **Леанід Шыдлоўскі**.

Па выніках папярэдніх спаборніцтваў у далейшым этапе чэмпіянату Мінскай вобласці прымуць удзел толькі пераможцы: маладзечанкі і мядзяльчане.

## Мядзельскія шашысты працягнуць гуляць у Паставах

**МЯДЗЕЛ.** У Паставах 16 лістапада адбыліся гульні да адкрытага чэмпіянату Пастаўскага раёна па шашках-64. Мядзяльчане **Леанід Жыхар** і **Леанід Козел** разам з яшчэ адным гульцом падзялілі 2-4 месцы. Яны трапілі ў асноўную сетку чэмпіянату.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КОНКУРС




Крыжаванка Наталлі ТУР і Максіма СТАЯНА.

## Выйграйце білеты на хакейны матч “Дынама-Маладзечна”

Разгадайце крыжаванку і атрымайце білеты на дамашні матч “Дынама-Маладзечна”. Упішыце ў акенца ключавое слова і дашліце нам на адрас: ***Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а*** або на электронную пошту **regionnews@rh.by**.

**По гарызанталі:**

2. Адзін з Раманаў у “Дынама”. 4. Аўтар першай шайбы “Дынама” ў чэмпіянаце. 5. Горад, з якога ў складзе “Дынама” найбольшая колькасць гульцоў. 8. Горад, які абараняе “Дынама”. 9. Капітан “Дынама”. 10. Краіна, у якой нарадзіўся галкіпер Павел Шагала. 12. Прозвішча галоўнага трэнера “Дынама”. 13. У матчы з гэтым сапернікам “Дынама” дамаглося самай вялікай перамогі.

**Па вертыкалі:**

1. Гулец “Дынама” пад нумарам 33. 3. Родны горад Ірэка Хафізава. 6. Менавіта гэту каманду перамаглі “дынамаўцы” ў першым дамашнім матчы. 7. Першая каманда, якая адыграла ў чэмпіянаце Беларусі ў Маладзечне. 11. Нападаючы Аляксей ...

**Адказы прымаюцца да 28.11.2014 уключна.**

Глядзіце ✓**Фота** ✓**Відэа** на нашым сайце




Шукайце нас таксама ў сацыяльных сетках











 



● КОНКУРСЫ

# Выйграй два білеты на канцэрт гурта “Крама”

**28 лістапада, у пятніцу, а 19-й гадзіне ў Мінску ў Палацы культуры чыгуначнікаў абудзецца канцэрт гурта.**


Фота bnp.by.

Ігар Варашкевіч, удзельнік гурта “Крама”.

Можна выйграць білеты на “Краму”, калі дасланы ў рэдакцыю сваю калядную гісторыю або падзяліцца традыцыямі сваёй сям'і на Каляды. Чакаем вашых лістоў да 21 лістапада. Усяго будзе два пераможцы. Кожны атрымае па адным білеце.

Наш электронны адрас: **regionnews@rh.by.**

Наш паштовы адрас: *Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.*

Цана білетаў на канцэрт – ад 120 да 280 тысяч рублёў. Без нацэнкі білеты можна купіць у пераходзе Якуба Коласа ў Мінску. Набыць білеты можна і праз інтэрнэт на сайтах: kvitki.by, ticketpro.by. Усім, хто набудзе білет папярэдне, чакае падарунак у дзень канцэрта – кампакт-дыск ад БМАgroup. Тэлефоны для даведак: **(8029) 6490888, (8029) 8517706**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Чытачы “РГ” даслалі рэцэпты старажытных страў

**У мінулым нумары “Рэгіянальнай газеты” разам з гуртам “Стары Ольса” запусціла конкурс. Для ўдзелу ў ім трэба было даслаць рэцэпт старажытнай беларускай стравы, прыгатаваць яе і зрабіць фота.**

Пераможцу чакалі два білеты на канцэрт “Старога Ольсы” ад саміх музыкантаў.

Перш за ўсіх з заданнем справілася **Марына Кацярыніч.** Яна даслала рэцэпт стравы гарбуза з сушанай садавінай. Яе гатавала бабуля, каб пацешыць дзяцей нечым салодкім. Рэцэпт мы друкавалі ў мінулым нумары.

Другім з заданнем справіўся **Зміцер Заяц** і яго сям'я. Яны даслалі рэцэпты страў, якія гатавалі на Дзяды.

На гэта свята ў іх на стале былі куцця, верашчака, бліны, кіслая капуста, селядзец з цыбуляй, морс з журавінаў.


Фота Зміцера ЗАЙЦА.

**Куцця на Дзяды ў сям'і Зміцера Зайца.**

### Рэцэпт куцці

**Інгрэдыенты:** ячныя крупы, паўшклянкі разынак, дзве сталовыя лыжкі мёду.

**Спосаб прыгатавання:** памыць ячныя крупы, варыць іх 30-40 мінут. Пасля даць крышачку астыць. Дадаць у крупы памытыя разынкі і мёд.

### Рэцэпт верашчакі

**Інгрэдыенты:** 1 кілаграм дамашняй кілбасы, 1 шклянка курынага або свінога булёну, 2 сталовыя лыжкі мукі.

**Спосаб прыгатавання:** кілбасу падсмажыць на патэльні да румянага колеру, дадаць да яе булён. Даць закіпець. Пасля гэтага дадаць муку. Усё перамяшаць, патушыць 10 хвілін.

Стол на Дзяды гатовы.

**Галіна СІНІЦА.**

**Фота глядзіце на сайце rh.by.**

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр “Мір”, Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Крымінал “**Пластык**” (Вялікабрытанія, з 16 год)
21, 22, 23 лістапада – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Камедыя “**Спакуснік 2**” (Германія, з 16 год)
21, 22, 23 лістапада – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя “**Неверагодныя прыгоды ката**” (Францыя, без узроставых абмежаванняў)
22, 23 лістапада – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Прыгоды “**Мост у Тэрабітыю**” (ЗША, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26 лістапада – у 18:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Баявік “**Рэйд 2**”, (Інданэзія, з 18 год)
26, 27 лістапада – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Прыгоды “**Неверагоднае перасоўванне**” (Беларусь, без узроставых абмежаванняў)
27 лістапада – у 18:00
Цана білета – 20 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прыгоды “**Мост у Тэрабітыю**” (ЗША, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
21, 26 лістапада – у 18:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Анімацыя “**Неверагодныя прыгоды ката**” (Францыя, без узроставых абмежаванняў)
22, 23 лістапада – у 15:30
Цана білета – 10 000 рублёў

Крымінал “**Пластык**” (Вялікабрытанія, з 16 год)
22 лістапада – у 18:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Камедыя “**Спакуснік 2**” (Германія, з 16 год)
23 лістапада – у 20:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Прыгоды “**Неверагоднае перасоўванне**” (Беларусь, без узроставых абмежаванняў)
27 лістапада – у 18:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя, прыгоды “**Мядзведзі-суседзі**”, 3D (Кітай, 2014, без узроставых абмежаванняў)
22 лістапада – у 14:00
25 лістапада – у 15:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Сямейная анімацыя “**Махні крылом**” (Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
21 лістапада – у 15:30
26 лістапада – у 16:00 (цана білета: 25 000 рублёў)
22 лістапада – у 16:00
23 лістапада – у 13:30 (30 000 рублёў)

Драма “**Я не вернуся**” (Беларусь, Казахстан, Расія, 2014, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні дарослых)
21, 25 лістапада – у 17:30
22 лістапада – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

**“Горка 2”** (Расія, 2014, ад 16 год)
21 лістапада – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прыгоды, фантастыка “**Інтэрстэлар**” (ЗША, Вялікабрытанія, 2014, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні дарослых)
23 лістапада – у 15:30
24, 26 лістапада – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя “**Дзень дурня**” (Расія, 2014, пасля 16 год)
22 лістапада – у 20:00
23 лістапада – у 21:30 (цана білета: 45 000 рублёў)
25 лістапада – у 22:00 (50 000 рублёў)

Фантастычныя прыгоды “**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца**” (ЗША, 2014, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні дарослых)
21, 22 лістапада – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
23 лістапада – у 19:00
24, 26, 27 лістапада– у 21:30
25 лістапада – у 19:30 (50 000 рублёў)

Прэм'ера! Анімацыя, камедыя, прыгоды “**Пінгвіны Мадагаскара**”, 3D (ЗША, 2014, да 12 год – у суправаджэнні дарослых)
27 лістапада – у 19:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Прэм'ера! Прыгоды “**Дзяржаўная мяжа. Фільм дзявяты: кур'ер страху**” (Беларусь, 2014, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні дарослых)
27 лістапада – у 17:30
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды “**Неверагоднае перамяшчэнне**” (Беларусьфільм, 2014)
22 лістапада – у 16:30
23 лістапада – у 14:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Прыгоды “**Мост у Тэрабітыю**” (ЗША, 2011, дзецям да 12 год – у суправаджэнні дарослых)
22 лістапада – у 14:30
23 лістапада – у 16:30
Цана білета: 20 000 рублёў

“**Белыя росы. Вяртанне**” (Беларусь, 2014, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні дарослых)
21 лістапада – у 17:00
23 лістапада – у 18:30
26 лістапада – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама “**Пампеі**” (Канада, 2014, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні дарослых)
21, 23, 25, 27 лістапада – у 21:00
22 лістапада – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Крымінальны трылер “**Мерзлая зямля**” (ЗША, 2011, пасля 16 год)
21, 25, 27 лістапада – у 19:00
22, 24, 26 лістапада – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

Прэм'ера. “**Шматкі па закуточках**” (жыццёвая гісторыя), Р.Осцер (рус. мова)
23 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73**, **76-84-27**.

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**СПЕКТАКЛЬ-ФІНАЛІСТ III РЭСПУБЛІКАНСКАГА КОНКУРСУ ТЭАТРАЛЬНАГА МАСТАЦТВА “НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ТЭАТРАЛЬНАЯ ПРЭМІЯ”**

ПРЭМ'ЕРА. “**Падобны на Стынга**” (рэтра ў 2-х частках), *Ірына Пісьменная*
21 лістапада – у 19:00

“**Месье з рагамі, мадам з вусамі**” (вадэвільная гісторыя у 2-х частках) Марсэль Берк'е-Мерынье *Анатоль Курбскі*
22 лістапада – у 17:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 9 | |
| | | | 1 | 3 | | 5 | | |
| 5 | 7 | | | | | | 3 | 2 |
| | | | | 1 | | 7 | | |
| 9 | 5 | | 2 | 4 | 3 | | 8 | 1 |
| | | 2 | | 9 | | | | |
| 1 | 6 | | | | | | 4 | 7 |
| | | 9 | | 5 | 8 | | | |
| | 3 | | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● ГАРАСКОП
21-27 ЛІСТАПАДА

**Авен.** Перыяд парадуе вас добрай атмасферай у сям'і і ва ўласных адносінах. Зоркі абяцаюць мора рамантыкі і радасных падзей. Пастарайцеся з удзячнасцю прыняць усе старанні блізкіх, не чакаючы ад іх нічога большага.

**Цялец.** Пасля сустрэч, камандзіровак, паездак вам становіцца заўсёды сумна. Праца вас выратуе ад хмурага настрою і падорыць новыя знаёмствы.

**Блізняты.** Не звяртайце ўвагу на некаторыя дзіўвацтвы ў паводзінах вашых знаёмых. Вы таксама не заўсёды ўсё робіце лагічна. Трэба прымаць людзей такімі, якія яны ёсць.

**Рак.** Вас падхопіць вецер перамен. Ён будзе падштурхоўваць вас да здзяйсненняў у самых розных сферах жыцця. Таму засяродзьцеся і будзьце ў патрэбным месцы ў патрэбны час.

**Леў.** Вам трэба добра ўсвядоміць правіла трох Н – няма нічога немагчымага.

**Дзева.** У вас стан, блізкі да дэпрэсіі. Не ўпадайце ў адчай. Жыццё такое пераменлівае, што калі сёння вам дрэнна, то заўтра можа адбыцца такое, што ад радасці аж дух захопіць.

**Шалі.** Калі ў вас не ляжыць душа да якога-небудзь чалавека ці нейкай працы, не варта губляць на іх свой час.

**Скарпіён.** Раўнамерна чаргуйце працу і адпачынак. Прыслухоўвайцеся да сябе, паспрабуйце пазбягаць такіх сітуацый, якія здаюцца вам сумнiўнымі.

**Стралец.** Усяму віной будзе ваша залішняя эмацыйнасць. Вы ўсё прымаеце блізка да сэрца. З-за гэтага можаце раздражняцца без прычыны на блізкіх вам людзей. Трымайце сітуацыю пад кантролем.

**Казярог.** Перыяд выдасца не такі просты, як бы таго хацелася. Але з усім можна справіцца, калі не паддавацца эмоцыям. І вы толькі парадуецеся, што вашы блізкія побач і гатовыя дапамагчы ў любую хвіліну.

**Вадалей.** Ваш добры настрой становча паўплывае на работу і ўсе справы. Вы, акрамя маральнага задавальнення, атрымаеце яшчэ і прыбытак. З'явіцца чалавек, які так даўно чакаў з вамі сустрэчы. Пагаджайцеся, новае знаёмства прынясе толькі радасць.

**Рыбы.** Не адмаўляйце сабе ў задавальненні жыць так, як вам хочацца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**



 



ISSN 1991-7155

Камент-эксперт Rh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

ТэлетыДзень

## НАДВОР'Е

22 лістапада субота

| | Пятніца | Субота | Нядзеля | Панядзелак |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | -1 / 0 / 751 ↖ 3 | -1 / +1 / 750 ← 1 | -1 / 0 / 753 ↑ 4 | -3 / -1 / 753 ↑ 4 |
| Вільня | +1 / 0 / 759 ← 2 | 0 / 0 / 759 ↘ 1 | +1 / 0 / 763 ↓ 3 | -1 / -1 / 754 ↑ 4 |

Усход 8.55 Захад 17.02 Даўжыня дня 8.07

Усход 8.22 Захад 17.24 Маладзік




## ПРЫКМЕТЫ

- 22 лістапада. Матруна. Калі на Матруну будзе шэрань на дрэвах – чакай марозаў.
- 26 лістапада. Іван Залатавус – дзень пчаляроў. "Іван мёд выбірае".

## Чытайце праз тыдзень:

**Спецпраект "РГ". Мы падлічылі, колькі можна зэканоміць на картах скідак у буйных крамах. Маладзечанка цягам месяца хадзіла ў дзве крамы, дзе мае скідкі, і захоўвала рахункі. Шукайце інфаграфіку ў наступным нумары.**






Рэгіянальная газета. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 47 (1021) 21.11.2014. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1559. Падпісана ў друк у 9.00 20.11.2014.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.